PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 17 (2085) Год XLI Беласток 28 красавіка 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

Пётр Байко

## Шматвяковая Белавежа

У пачатку г.г. белавежцы стварылі камітэт па справах святкавання чатырохсотгоддзя Белавежы. Распрацаваная праграма прадугледжвае шматлікія мерапрыемствы і ініцыятывы, якія будуць рэалізавацца два найбліжэйшыя гады. Святкаванні пачаліся 30 сакавіка г.г. урачыстасцю з выпадку 50-годдзя мясцовага дзетсада. Галоўныя святкаванні назначаны на 21 чэрвеня г.г. Патранат над юбілеем узяў прэм'ер-міністр РП Уладзімір Цімашэвіч.

Успомненая круглая гадавіна датычыць цяперашняй лакалізацыі мясцовасці. На добры лад Белавежа старэйшая на два стагоддзі. А пачала яна нараджацца над рэчкай Лутоўняй, непадалёку ад вусця ў раку Нараўку. Тут першыя будыніны мелі паставіць вялікі князь літоўскі Вітаўт і кароль Польшчы Ягайла. Сталася гэта яшчэ перад 1409 г., калі абодва ўладары наладзілі ў Белавежскай пушчы вялікае паляванне. Пасля іх свае паляўнічыя двары ставілі недзе ў гэтым лесе Стэфан Баторый і Жыгімонт І Стары. На жаль, ніякіх слядоў ад гэтых збудаванняў не захавалася, а прынамсі ніхто на іх не натрапіў. Адзіныя сляды гэта назвы тутэйшых урочышчаў — Старая Белавежа і Замчыско.

Некаторыя гісторыкі мяркуюць (Е. Вісьнеўскі), што праз Белавежскую пушчу, побач каралеўскіх двароў пралягаў каралеўскі шлях з Вільні ў Кракаў.

Пераносіны каралеўскага паляўнічага пасялення на новае месца, значыць над раку Нараўку, наступілі напрыканцы XVI ст. Першая звестка аб новай Белавежы датычыць капання сажалкі і паходзіць ад 1597 г. „Ардынацыя пушчы" 1639 г. інфармуе, што над сажалкай стаіць ужо двор. Побач яго, на рацэ, працуе млын, які арандуе Іван Грыцэвіч. Паводле мясцовых вусных пераказаў, двор знаходзіўся на левым беразе прытока Нараўкі, які на цяперашніх картах абазначаны як рэчка „Złota". Пасёлак у сваю чаргу быў заснаваны крыху далей на ўсход, ва ўрочышчы Крыштаповэ.

Інвентар ад 1696 г. успамінае аб Белавежы як 25-моргавым фальварку, ад якога і пачала пашырацца Белавежская паляна. Двор даглядала паляўнічая ахова. У 1705 г. у двары затрымаўся кароль Аўгуст II Моцны.

Каля 1710 г. у Белавежы ўспыхнула эпідэмія чумы (зрэшты, у той час чума збірала вялікі плён таксама шырока па-за межамі Белавежскай пушчы). Тыя жыхары, якім удалося ўцалець, вырашылі ліквідаваць заразу агнём. Спалілі пасёлак і двор, а самі перанесліся ў іншае, „здаровае" месца, каб там распачаць пабудову новага пасялення.

У палове XVIII ст. кароль Аўгуст III Саксонец збудаваў у Белавежы новы двор. Ён размяшчаўся на ўзгорку ў сённяшнім Палацовым парку. Потым да каралеўскага палацыка дабудавалі два флігелі. У 1752 г. у Белавежы гасцявалі ўдзельнікі палявання, наладжанага каралём. На пачатку гэтага здарэння пастаўлены быў невялікі абеліск, які захаваўся да нашых дзён. У 1775 г. Белавежа налічвала 20 дымоў.


Царква ў Белавежы.

Пад канец XVIII ст. на Белавежскай паляне паявіліся новыя пасёлкі — Стачок, Падаляны, Застава, шмат пазней далучылі да іх Крыжы. Зараз яны састаўляюць кварталы мясцовасці. У іх таксама (апрача Крыжоў) змяшчаюцца салэтвы.

У 1795 г. Белавежа апынулася ў царскім уладанні. У арэнду, на паўвека, атрымаў яе Міхал Кутузаў. У гэтым часе збудавалі драўляную царкву і заснавалі прыход. У 1812 г. шмат шкодаў прычынілі Белавежы напалеонаўскія войскі. Быў знішчаны двор. У 1862 г. пасяленне налічвала 56 дамоў. У 1845 г. тут збудавалі абшырны будынак для ўрадавых гасцей, у якім м. інш. гасцяваў цар Аляксандр II, які паляваў у белавежскіх нетрах у 1860 г. У той час Белавежа з'яўлялася цэнтрам белавежскай гміны. Насяляла яе каля 600 чалавек.

Напрыканцы XIX ст. цар вырашыў уладкаваць у Белавежы сваю асеннюю паляўнічую рэзідэнцыю. Дзеля гэтага збудавалі тут вялікі палац з цэлым комплексам суправаджаючых аб'ектаў. Заснаваны былі два паркі. Здалі ў карыстанне праваслаўным новую, мураваную царкву. Пабудавалі чыгунку і шашу. У 1894 г. у пушчы паляваў цар Аляксандр III, потым кожныя тры гады ў Белавежу прыязджаў ягоны сын цар Мікалай II.

І сусветная вайна прынесла Белавежы надта вялікія страты. Мясцовасць была напалову спалена. Насельніцтва падалося ў бежанства. Падчас акупацыі немцы высеклі шмат пушчы.

Пасля адыходу немцаў Белавежа кароткі час была цэнтрам белавежскага павета. Сюды перанеслася з Брэста Дырэкцыя дзяржаўных лясоў. Пачаў стварацца нацыянальны парк. Вярталася мясцовае насельніцтва, якое стала адбудоўваць свае сялібы. Адначасова прыязджала сюды шмат людзей з усяе Польшчы, асабліва з бедных рэгіёнаў, за працай. Паступова развіваліся прамысловасць, гандаль, паслугі. Бурліла культурнае і спартыўнае жыццё. Звыш 10 гадоў працавала школа для ляснічых. Узнік аддзел Даследчага інстытута дзяржаўных лясоў. Ад 1930 г. у Белавежу пачаў прыязджаць штогоду, з высокапастаўленымі гасцямі, прэзідэнт РП І. Масціцкі, які тут арганізаваў г.зв. прадстаўнічыя паляванні. У палацы былі падрыхтаваны спецыяльныя апартаменты. У 1934 г. збудаваны быў рымска-каталіцкі касцёл. Свае храмы мелі ў той час ужо таксама яўрэі і баптысты. Белавежа ў другой палове 30-х гадоў налічвала звыш 6000 жыхароў.

Незадоўга перад выбухам вайны ў мястэчку арганізаваны быў ваенны шпіталь н-р 502.

У кастрычніку 1939 г. Белавежа апынулася ў межах БССР. У лютым 1940 г. з белавежскай чыгуначнай станцыі вывезлі ў глыб Расіі каля 1500 чалавек, пераважна прадстаўнікоў польскай ляснай адміністрацыі і інтэлігенцыі. Немцы ўступілі ў Белавежу 27 чэрвеня 1941 г. Яны правялі сваю „чыстку", расстрэльваючы або вешаючы ў межах самой Белавежскай паляны і ў яе найбліжэйшых ваколіцах каля 1000 чалавек. Мясцовасць вызвалілі войскі 65 арміі ген. П. Батава 17 ліпеня 1944 г. У

(працяг на стар. 10)

Аляксандр Вярбіцкі

## Полька

*Żandarmeria niemiecka w Michałowie podejrzewała mieszkańców wsi o łączność z partyzantami. W marcu 1943 r. żandarmi otoczyli Pólko. Mieszkańców wywieziono do Michałowa, gdzie mężczyzn oddzielono od kobiet i dzieci. Zabudowania we wsi spalono. 13.03.1943 mężczyzn rozstrzelano w Kruhłym Lasku (11 mężczyzn). Na miejsce egzekucji spędzili mieszkańców Kruhłego Lasku i Maciejkowej Góry.*

*(„Przewodnik po upamiętnionych miejscach walk i męczeństwa")*

У Польку стаяць цяпер чатыры хаты. У першай (ад Мацейкавай Гары) жыве сп. Лапінскі — ураджэнец Полька, а цяпер жыхар Ломжы — які апякуецца тут старой матуляй. Другая хатка-зямлянка стаіць пустая — яе гаспадыня жыве ўжо ў Ялоўцы, у *Доме старцаў*. У трэцяй, агромністай новай мураванцы, жыве сям'я Казберукоў. Паставіў яе гаспадар і, як гэта гаворыцца, не прыйшлося яму ў ёй пажыць — няма яшчэ года, як перабраўся ў вечную дамавіну. Чацвёртая хата — гэта старая хата Казберукоў, пустая. Зайшоў я ў мураванку, куды неўзабаве, зацікаўлены незнаёмым госцем, з'явіўся і сп. Лапінскі. Такім чынам умомант зышлася да мяне — можна сказаць — уся вёска. Пра падзеі 1943 г. пытаў я гаспадыню, якая ведае пра іх толькі з апавяданняў аднавяскоўцаў, і яе суседа, якому тады было дзевяць гадоў. Вось, што яны мне сказалі.

Партызаны заходзілі ў нашу вёску часта. Найчасцей бывалі ў Казберукоў, бо была ў іх вялікая хата. Гаспадарам на адыходнае гаварылі, каб дакладваць немцам, што яны былі, толькі каб не гаварыць, колькі іх было і ў якім напрамку адышлі. Гаварылі, што немцы ведаюць пра іх тут прысутнасць і будуць нас выпытваць і што трэба пра іх гаварыць, каб немцы не падазравалі, што памагаем партызанам канспіравацца. Ну і раз солтыс Палех, якому нехта далажыў пра прабыванне партызан, паехаў у Міхалова і далажыў пра тое немцам, а Палеха дачка паведаміла партызан, каб уцякалі, бо на іх пайшоў данос. То тыя партызаны тады да таго дзіцяці: хто далажыў? А яна сказала, што падсолтыс з Круглага Ляска. Ну і яны забілі Кужалеўскага, падсолтыса, хаця той ні ў чым не быў вінаваты. Людзі гаварылі, што зрабіў гэта Васько Мікалай, але пасля вайны разгляду гэту справу суд і не прызнаў яго віноўным. А гаварылі так таму, што Васько даносіў на тых, што дрэвы з лесу падкрадалі, каб будавацца. А партызаны тыя розныя былі: адны гаварылі так, а другія рабілі іначай; былі сярод іх і звычайныя зладзеі.

І неўзабаве, 22 студзеня з раніцы аб-

(працяг на стар. 10)

# Мы прачыталі

*Premier Włodzimierz Cimoszewicz przekazał prezydentowi Indonezji Suharto zaproszenie do złożenia oficjalnej wizyty w Polsce. W Warszawie wyląduje wkrótce pogromca indonezyjskich komunistów, jeden z najbardziej okrutnych dyktatorów. Podczas przejmowania władzy przez generała Suharto w 1965 r. zginęło 300 tys. osób. Od tego czasu „ojciec narodu” indonezyjskiego sześciokrotnie wygrywał wybory z samym sobą (nigdy nie miał kontrkandydatów) i wkrótce wygra ze sobą po raz siódmy.*

*Gospodarzem przyjmującym generała Suharto będzie lewicowy prezydent. A wiadomość o zaproszeniu do Polski „ojca rozwoju” Indonezji nie wywołała żadnych protestów w tutejszych kręgach obrońców praw człowieka na czele z Unią Wolności, SLD, „Trybuną”.*

*Polityka, nr 13.*

* * *

*Двухмоўе — гэта калі гавораць па-руску і па-беларуску.... адначасова.*

*Вожык, н-р 3*

* * *

*Для мяне, як Прэзідэнта, воля народа — вышэй усіх законаў. Я хачу, каб вы зразумелі, што мы не ствараем новую дзяржаву, а фарміруем саюз Расіі і Беларусі. Я хачу, каб рускі і беларус адчувалі сябе членамі адной дзяржаўнай сям'і,* — сказаў Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка прэзідэнт, дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

*Звязда, н-р 84—85*

* * *

*Aleksander Łukaszenka ma szczere komsomolskie spojrzenie. Mimo komsomolskiego wieku prowadzi Białoruś w przeszłość.*

*Kurier Podlaski, nr 69*

Няма газеты ў свеце, якая не пісала б пра Аляксандра Рыгоравіча!

* * *

*Prezydent Kwaśniewski spotkał się w Wiskulach na Białorusi z likwidatorem białoruskiej państwowości Aleksandrem Łukaszenką. Jak poinformowano podczas konferencji prasowej, prezydenci osiągnęli „pełne zrozumienie wzajemne”. Podczas tej wizyty Kwaśniewski spotkał się z delegacją białoruskiego parlamentu wykonującego posłusznie wszystkie polecenia Łukaszenki. Miało to być spotkanie z opozycją, ale zapomniano jej zaprosić.*

*Głos, nr 39*

Найважнейшае, што прэзідэнты дзвюх „незалежных” краін добра адзін аднаго разумелі... без перакладчыка!

* * *

*Chrześcijanie proponowali dzielić swoje i dobrowolnie, socjaliści zaś — cudze i przymusowo.*

*Gazeta Polska, nr 14*

* * *

*Няма для раба большага няшчасця, чым смерць гаспадара, які клапаціўся пра яго — карміў і апранаў... Яшчэ большае няшчасце для раба — атрыманне волі. І зусім ужо страшна — волі нечаканай, нябам, лёсам дараванай. Быць чалавекам вольным, аказваецца, зусім не проста. Перш за ўсё трэба думаць. Трэба самому прымаць рашэнні. Рабіць выбар. Да такіх сіротаў звярнуліся аўтары рэферэндуму ў Беларусі з пытаннем: ці хочуць яны вярнуцца да гаспадара, які іх карміць і апранаць будзе.*

*Літаратура і мастацтва, н-р 13*

* * *

*Po podpisaniu dokumentów powołujących do życia związek Rosji i Białorusi (Stowarzyszenie Suwerennych Republik — SSR) prezydenci Jelcyn i Łukaszenka wyszli na dziedziniec Kremla, gdzie czekały „delegacje organizacji społecznych” przywiezione z Białorusi i różnych zakątków Rosji. Patriarcha Wszechrusi Aleksij II pobłogosławił Borysa Jelcyna i Aleksandra Łukaszenkę, gdy podpisywali umowę „o pogłębieniu integracji”. Na mocy tej umowy Białoruś i Rosja będą miały wspólną kulturę i język — rosyjski. O suwerenności Białorusi będzie świadczyć własna, pochodząca z czasów sowieckich, flaga i hymn. Białoruś stanie się gospodarczą częścią Rosji.*

*Niepokoi mnie postawa polskich komunistów. Dlaczego Kwaśniewski pojechał na Białoruś. Niestety, mimo całej ogłady, nowego myślenia, ciągnie ich do swoich,* — сказаў лідэр народнага руху Украіны Вячаслаў Чарнавіл.

*Gazeta Wyborcza, nr 86*

* * *

*Za bochenek chleba i litr mleka przeciętny Amerykanin płaci dziś tyle, ile mieszkaniec Warszawy i Poznania. Amerykanin taniej o 50 proc. kupuje jajka i soki owocowe. Amerykanin — podobnie jak Niemiec, Czech, Węgier — mniej wydaje na cukier, jabłka, pomarańcze. Amerykanin zarabia 20 razy więcej niż Polak. Tylko w pierwszym kwartale br. jabłka zdrożały o 33%, cebula o 12%, mąka o 20%, wędliny o 16%.*

*Wprost, nr 14*

* * *

*Od zakończenia wojny do połowy 1946 r. zamordowano na ziemiach polskich ok. 800 Żydów. 4 lipca 1946 r. w Kielcach dokonano zbiorowej rzezi ocalałej z holocaustu garstki Żydów. 42 osoby, w tym małe dzieci, kobiety w ciąży, poniosły śmierć. Żydów zabijano drągami, kamieniami, wyrzucano z okien, wdeptywano w ziemę, topiono w rzece, polowano na nich w całym mieście. W kilkugodzinnej rzezi uczestniczyło lub co najmniej przyglądało się ok. 20 tys. ludzi — większość dorosłej ludności Kielc.*

*Wprost, nr 14*

# З мінулага тыдня

**Лідэры Беларускага народнага фронту „Адраджэньне” — Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык** вымушаны былі падацца на эміграцыю ў Польшчу. Будуць яны прабываць спачатку ў Вроцлаве, а потым у Кракаве і Варшаве. Пазьняк і Навумчык пакінулі Беларусь у канцы сакавіка, пасля першай антыпрэзідэнцкай дэманстрацыі супраць інтэграцыі Беларусі з Расеяй, калі пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу супраць арганізатараў святкаваньня 78-х угодкаў БНР.

**Настаў вельмі цяжкі час для Беларусі**, які расцэньваем як першы этап яе анексіяваньня Расеяй, — сказаў на прэс-канферэнцыі ў Вроцлаве старшыня БНФ **Зянон Пазьняк**. На яго думку, аб'яднанне Беларусі з Расеяй было спланавана ўжо ў 1994 г., калі прэзідэнтам — пры падтрымцы расейскіх спецслужбаў — стаў Аляксандр Лукашэнка. У Беларусі няма свабоды слова, парушаюцца правы чалавека, а сродкі масавай інфармацыі манапалізаваны прэзідэнцкай камандай. Такая сітуацыя пагражае суседнім дзяржавам, — лічыць Зянон Пазьняк.

**Пасольства Літвы** ў Варшаве перадало Міністэрству замежных спраў ноту ў справе чарговага інцыдэнту ў літоўскім консульстве ў Сейнах. Ноччу з 5 на 6 красавіка невядомыя злачынцы сарвалі там літоўскі нацыянальны сцяг. Быў гэта ўжо сёмы інцыдэнт зганьбавання літоўскіх нацыянальных сімвалаў за няпоўны два гады існавання консульства ў гэтым горадзе.

**У Шчэціне**, па запрашэнні Фонду развіцця лакальнай дэмакратыі, пабывалі васемнаццаць настаўнікаў вышэйшых навуковых установаў з Менска, Гродна і Брэста. Разам з польскай групай займаліся яны па праграме „Школа дэмакратыі і самакіравання”.

**Міжнародная аўтастрада Е-67** з Хельсінкі ў Прагу — вядомая як Via Baltica — на тэрыторыі Польшчы будзе праходзіць між іншым і цераз **Беласток**. У сувязі з гэтым яшчэ сёлета пачнецца мадэрнізацыя акружной дарогі вакол Беластока.

Завяршэнне **VII тэлетурніра „На алімпійскім шляху”** адбылося ў Беластоку, а конкурснаму журы старшынявала алімпійская чэмпіёнка **Ірэна Шэвіньская**. У ліку пераможцаў апынуўся таксама прадстаўнік Беласточчыны — **Ігар Мусько** з Эканамічнага ліцэя з Бельска-Падляшскага, які ва ўзнагароду паедзе ў Вялікабрытанію на чэмпіянат Еўропы па футболу.

**Забарона курыць папяросы** будзе абавязваць з 1 мая г.г. у рэстаранах, банках, вакзалах, школах, шпіталях і іншых памяшканнях грамадскага карыстання. Закурыць папяросу будзе можна толькі тады, калі ўладальнік будынка выдзеліць адмысловае месца для гэтай мэты. Тым, хто не будзе прытрымоўвацца забароны, пагражае штраф да 5 тысяч новых злотаў.

**У падбеластоцкай вёсцы Копіск** выяўлены пяты ў гэтым годзе выпадак **шаленства** на Беласточчыне. Усе сёлетнія выпадкі гэтай небяспечнай хваробы, пацверджаныя доследамі Лабараторыі ветэрынарнай гігіены, датычылі мёртвых лісаў, знойдзеных паблізу сельскагаспадарчых будынкаў.

**У Белавежы** Падляшскі аддзел Гранічнай аховы затрымаў чатырох курдаў з Ірака, якія ноччу нелегальна перасяклі польска-беларускую мяжу з намерам дабрацца ў Нямеччыну. Нелегальныя турысты былі вернуты назад і перададзены беларускім пагранічнікам.

**У Навасёлках** (гміна Харошча) здарылася трагічная аўтамабільная катастрофа — сутыкнуліся два вялікія грузавікі: польскі „Мерседэс” і беларускі „МАЗ”. Шафёр „Мерседэса” загінуў на месцы.

# Весткі з Беларусі

**Дзесяцігоддзе пасля Чарнобыля**

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь выступіў на міжнароднай канферэнцыі „Дзесяцігоддзе пасля Чарнобыля — ацэнка вынікаў аварыі”, якая праходзіла ў Вене пад эгідай Міжнароднага агенцтва па атамнай энергіі МАГАТЭ. „Запрашэнне на канферэнцыю і ўдзел у ёй прадстаўнічай беларускай дэлегацыі — пераканаўчае сведчанне таго, што сусветная супольнасць усведамляе: беларускі народ нясе асноўны цяжар вынікаў чарнобыльскай глабальнай аварыі”, — адзначыў Аляксандр Лукашэнка.

**Гуманітарная місія**

У сувязі з 10 гадавінай выбуху на Чарнобыльскай АЭС Упраўленне каардынатара амерыканскай дапамогі новым незалежным дзяржавам пачало гуманітарную місію на Украіну і Беларусь. На спецыяльныя склады на Украіне і Беларусі паступілі кантэйнеры з бязвыплатнымі медыкаментамі і медыцынскім абсталяваннем ад урада і прыватнага сектара. Частка медыкаментаў, дарагія прэпараты і лекі, якія патрабуюць спецыяльнага захоўвання, паступіла з Амерыкі. 27 красавіка ў Менск будзе дастаўлена наступная партыя медыкаментаў для размеркавання паміж беларускімі медыцынскімі ўстановамі.

**Фарміраванне агульнай прасторы**

Намеснік старшыні Выканаўчага камітэта Супольнасці Расеі і Беларусі Міхаіл Мясніковіч правёў нараду з прадстаўнікамі дзяржаўных мытных камітэтаў РФ і РБ ды Галоўнага ўпраўлення Пагранічных войскаў Беларусі па пытаннях сумеснай арганізацыі мытнай справы і фарміравання агульнай прасторы Беларусі і Расеі. Прынята рашэнне аб падрыхтоўцы ў найкарацейшыя тэрміны уніфікаваных заканадаўчых актаў аб функцыянаванні агульнай мытнай прасторы.

**Рознагалоссе ўрада з МВФ**

Міжнародны валютны фонд, які адклаў выдзяленне Беларусі ў студзені гэтага года другога траншу крэдыту stand by ў памеры 70 млн. дол., зможа прадоўжыць фінансаванне рэспублікі не раней чым праз два—тры месяцы пасля ўзнаўлення двухбаковых перамоваў. МВФ адклаў выдзяленне сродкаў з-за рознагалоссяў з беларускім кіраўніцтвам у галіне валютнага ўрэгулявання і абменнага курсу.

**Прадпрымальніцтва ў няласцы**

З просьбай прыняць аператыўнае рашэнне аб аднаўленні рэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання звярнуўся да кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі прэзідэнт Беларускага саюза прадпрымальнікаў Уладзімір Карагін. Прамаруджванне вырашэння гэтага пытання — як гаворыцца ў зварoце — фактычна прыпыніла дзейнасць і кантрактную работу калектываў усіх форм уласнасці, ускладніла прыцягненне інвестыцый у эканоміку рэспублікі. Акрамя таго значна знізіліся паступленні сродкаў у мясцовы бюджэт.

**Імунізацыя насельніцтва**

Паміж Міністэрствам аховы здароўя і Сусветнай арганізацыяй таварыстваў Чырвонага крыжа падпісаны быў мемарандум аб супрацоўніцтве ў правядзенні кампаніі масавай імунізацыі насельніцтва рэспублікі. Яна плануецца сёлета з 13 па 23 мая. Вакцынацыя будзе праводзіцца перш за ўсё сярод дарослых і тых, хто не атрымаў прышчэпак раней. Міжнародная супольнасць, якую вельмі хвалюе магчымасць пераносу эпідэміі дыфтэрыі ў заходнееўрапейскія краіны, выдаткавала на вакцыну больш за паўтара мільёна амерыканскіх долараў.

**Транспартнае пагадненне**

У Баранавічах адбылася міжнародная сустрэча, на якой было парафіравана пагадненне Міністэрства шляхоў зносін Расеі і дзяржаўных чыгунак Беларусі, Нямеччыны і Польшчы аб узгадненні тарыфных правілаў грузавых перавозак. У гэты дакумент увайшлі лепшыя артыкулы з транспартных правілаў Еўропы і СНД. Уніфікацыя дакументаў не толькі дазволіць спрасціць працэдуру афармлення перавозак на мытнях, але і павялічыць іх аб'ёмы.

**Падарунак з Польшчы**

Напярэдадні Вялікадня сябры з Польшчы зрабілі падарунак Баранавіцкай цэнтральнай бібліятэцы імя Таўлая, перадаўшы ёй 2 тысячы мастацкіх кніг на польскай мове. У горадзе жыве нямала палякаў, а падораная літаратура дазволіць бліжэй пазнаёміцца з культурнай спадчынай пісьменнікаў суседняй краіны.

## Неўзабаве ў „Ніве”

- **Татары і беларусы** — разважанні Мацея Канапацкага.
- **Саветы і немцы ва ўспамінах Веры Каноньчук.**
- **Ці хрысціяне могуць спрачацца** — задумоўваецца Сэрафін Корчак-Міхалеўскі.

# Дзіўны закон

Калі чалавек не мае працы, шукае спосабу, каб нечым заняцца. Так здарылася і са мною. Пайшоў я на пенсію, вольнага часу хоць адбаўляй! Асабліва ў зімовую пару. Пачаў я рашаць крыжаванкі! Кожны тыдзень пасылаю іх па некалькі штук у розныя часопісы.

Нядаўна сустрэў мяне непрыемны сюрпрыз. Пайшоў я на пошту ў Чаромсе, каб паслаць чарговыя рашэнні крыжаванак. Было гэта 28 сакавіка г.г. Запоўніў шэсць паштовых картак, якія засталіся ў хаце з даўнейшага запасу, наклеіў на іх „купоны", выразаныя з часопісаў і, падышоўшы да акенца, папрасіў паштовыя маркі для картак. Прыгажуня з акенца паглядзела на мае адкрыткі і кажа: „Гэтыя карткі ўжо адменены, не ходзяць. Трэба купіць новыя!" Я тлумачу, што на мінулым тыдні пасылаў такія ж з іхняй пошты і ніхто не прад'яўляў прэтэнзій, што старыя. Наклеіў маркі і ў канцы чыноўнічка ўзяла ад мяне іх.

— Гэта не мая выдумка, — кажа паненка — такі закон! Хочаце, каб мне з Гайнаўкі іх вярнулі і аб'явілі выгавар?!

— Калі так, дык не дам вам зарабіць, — заявіў я і пакінуў паштовае аддзяленне.

„Вось табе, баба, пляцак!" — падумалася мне. За гэтыя карткі я калісьці заплаціў грошы. Пошта запісала іх сабе на прыбытак. А цяпер кажуць, што непрыдатныя!

Хачу адзначыць, што даўнейшыя паштовыя карткі ні ў чым не розняцца ад цяперашніх. Толькі на маіх была надрукаваная марка за 5 зл. і яна жоўтая, а новыя, белага колеру і без маркі. На адной і другой ёсць месца на паштовы індэкс і адрас, на запіскі. І самае асноўнае, што я наклейваю марку для адкрытак за чатыры тысячы. Ды ў чым жа справа?

На маю думку, прычынай гэтаму з'уляецца рыначная эканомія. Паштовыя чыноўнікі прыдумалі закон, каб „старыя" паштовыя карткі з мінулых гадоў не пускаць у ход. Калі ад мяне не прымуць даўнейшых, я буду вымушаны ў іх купіць новыя. І зноў будзе прыбытак для пошты.

Як бачым, паштавікі не лыкам шытыя. Ведаюць дзеля чаго галаву на карку носяць!

**Уладзімір Сідарук**

# Выратавала „Семяноўка"

1 красавіка Беластоцкае радыё пусціла песню „I'm dreaming of a white Christmas" („Мару пра белыя Каляды") ды кожныя некалькі хвілін інфармавала пра завеі і непраезныя дарогі. Што не быў гэта жарт на *prima aprilis*, я пераканаўся на сваёй скуры. З Бельска ў Беласток не даехаў я на машыне (першы раз за ўсю зіму) і мусіў развярнуцца ў Рыбалах, бо далей проста не было праезду.

Гэты красавіцкі снег як неспадзявана выпаў, так і гвалтоўна растаў. На другі дзень, пад вечар, шаша Беласток—Бельск была ўжо чыстая. Але на палях было яшчэ зусім бела.

Калі пачалі сярод гэтай белі паяўляцца чорныя выспы, падняўся ў рэчках вада. Чым менш снегу ляжала на палях, тым вышэй быў яе ўзровень. У Бельску, напрыклад, Белая заліла ўвесь абшар між вуліцамі Замкавай і Траўгута, Ягелонскай і Дубічамі. Вячэрнія вулічныя ліхтары вельмі прыгожа адбіваліся ў разліўшымся возеры.

Перад „польскім" Вялікаднем ехаў я з Бельска на Нарву. Убачыў, як у шпаркія, шырокія метраў на пяцьдзесят рэкі пераўтварыліся звычайна вузенькія рачулкі: Белая каля аднайменнай вёскі, Арлянка каля Катлоў і Локніца каля Трашчотак. А між Малымі і Вялікімі Тыневічамі лугі апынуліся пад вадой з меліярацыйнага раўчука. Вада не змяшчалася ў пропусце і даходзіла



*Радыёжурналіст Юрка Ляшчынскі бярэ інтэрв'ю ў Лявона Хлябіча.* Фота Міколы ВАЎРАНЮКА

амаль да асфальту. Дарога пераўтварылася ў грэблю.

На фоне гэтага „патопу" надзвычай памяркоўна выглядала Нарва. Аказваецца, не без умяшання чалавека. Семяноўскае вадасховішча трымалі закрытае да 10 красавіка. Такі загад даў Ваводскі процiпаводкавы камітэт, бо ў ніжнім цячэнні Нарвы і Буга склалася пагражальнае становішча. Запруду ў Бандарах не адчынялі датуль, пакуль не спльыла вада з палёў, лугоў і меншых рачулак. Небяспека прайшла.

Затое ў самім Семяноўскім вадасховішчы пачало рабіцца цесна. На працягу трох апошніх сутак перад спускам вада падымалася на сантыметр у гадзіну. Дырэктар аддзела эксплуатацыі вадасховішча „Семяноўка" Лявон Хлябіч супакойвае:

— Няма пагрозы, што нас падтопіць, асабліва цяпер, калі мы адкрылі шлюзы ў плаціне. Нам яшчэ застаецца метр да максімальнага ўзроўню люстра вады. Апрача гэтага, маем паўметра рэзерву. Гэтага павінна хапіць нават на таючы снег з Белавежскай пушчы.

Нягледзячы на ўпэўненасць у поўнай бяспецы, былі праведзены размовы з жыхарамі Семяноўкі, што трэба рабіць на выпадак непрадбачанай катастрофы. У самай нізкай і самай блізкай вала частцы вёскі — Усадзьбе — людзі адчуваюць сябе бяспечна. Хаця там, бывае, вада вышэй іхніх сядзіб, яны надзеюцца на салідпасць забеспячэння.

* * *

Пасля сёлетняй снежнай зімы можна было спадзявацца паводак. І яны былі, але, на шчасце, не давялі да трагедыі. Больш зямлю і дзе-нідзе мясцовасці падтапілі малыя рэчкі, чымсьці вялікія. Напрыклад, Локніца парвала мост каля Лянева на асфальтаванай шашы з Чыжоў у Кленікі. Нарва не разліла дзякуючы Семяноўскаму вадасховішчу. Гэтае вялікае штучнае возера ў вярхоўях ракі да гэтай пары спараджала больш клопатаў, чымсьці карысці. Ні адтуль не бяруць вады для Беластока, як планавалі раней, ані не стварылася там база для развіцця турызму. Цяпер, мабыць, упершыню „Семяноўка" дзеля чагосьці спатрэбілася — уратавала ад паводкі Сураж, Лапы і іншыя ваколіцы, бліжэй Варшавы.

**М. В.**

# Завяршыўся

**I Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы,**

арганізаваны Рэдакцыяй „Нівы" і Беларускім саюзам пры садзеянні Праўлення Беластоцкага аддзела Саюза польскіх літаратараў, Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" і пад патранатам Аддзела культуры, спорту і турызму Ваяводскай управы ў Беластоку. Спонсарам конкурсу з'яўляецца „Fundacja Kultury" ў Варшаве.

У конкурсе прыняло ўдзел 20 паэтаў і празаікаў, якія не з'яўляюцца членамі ніякай прафесійнай літаратурнай арганізацыі. 7 удзельнікаў конкурсу гэта вучні пачатковых, 7 — вучні сярэдніх школ і 6 — дарослыя асобы. Знакамітая большасць дасланых твораў гэта вершы.

11 красавіка 1996 г. камісія ў складзе: Надзея Артымовіч (старшыня), Георгій Валкавыцкі, Ян Леанчук і Сакрат Яновіч, аб'явіла вынікі I Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы.

У першай групе — **школьнікаў** камісія вылучыла вершы **Жанэты Ролі** (вучаніца V класа Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім) і **Юстыны Каролька**, таксама вучаніцы гэтай школы.

У другой групе — **моладзі сярэдніх школ** — камісія вылучыла ў катэгорыі **паэзіі**: **Анелю Мiсеюк** і **Моніку Тамчук** з III „б" класа Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім і **Ізыдору Коц** з Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы.

У катэгорыі **прозы** пераможцамі сталі **Кацярына Сахарчук** з Гайнаўкі і **Марэк Рубашэўскі** з Бельска-Падляшскага.

У групе **дарослых** камісія звярнула асаблівую ўвагу на вершы **Міколы Ваўранюка** (журналіст „Нівы") і **Івоны Марціновіч**. У катэгорыі прозы перамагла **Ірэна Лукша** (карэспандэнтка „Нівы" — Аўрора).

Камісія звярнула ўвагу таксама на народную паэтычную творчасць **Міколы Панфілюка** і **Міколы Лук'янюка**.

Уручэнне ўзнагарод удзельнікам конкурсу плануецца ў другой палове мая ў Бельску-Падляшскім, аб чым усе будуць паінфармаваны.

Творы, якія былі дасланы на конкурс, будуць друкавацца ў „Ніве".

**Рэд.**

# Чаму мы хварэем

Наша нацыя ў Польшчы невялікая і небагатая, а хто бедны, той намнога часцей хварэе. Людзі бедныя вядуць нездаровы спосаб жыцця, дрэнна харчуюцца, кураць папяросы, пападаюць у алкагалізм, не ўмеюць адпачываць. Людзі бедныя слаба адукаваныя, а неадукаванасць вядзе да нізкай гігіенічнай культуры. На жаль, гэта змяніць нялёгка і часаёмка. Я хачу даць прыклад чагосьці, што можа нам паправіць здароўе і тым чынам зберагчы ад каштоўных выдаткаў на лекараў. Як вядома, зімой і ранняй вясной жыхары нашых гарадоў большую частку сутак сядзяць у сваіх блоках. Праз доўгія вечары і ночы мы дыхаем паветрам, якое не служыць нашым лёгкім, горлу і носу, і таму мы часта прастуджваемся. Яно вельмі сухое і цёплае ад цэнтральнага ацяплення і ад сонца, а дакладнай рэгуляцыі радыятараў няма. Нададатак мы самі рэдка праветрываем нашы памяшканні, бо ў некаторых блоках холадна. Закручваць клапаны радыятараў рызыкоўна, бо яны старыя і могуць працякаць. Можам паставіць увільгатняльнікі паветра і закрываць, хто мае, жалюзі, каб не дапускаць у кватэру сонца. Гэта рашэнне, аднак, нерацыянальнае. Нам трэба дамагацца ў адміністрацыі нашых блокаў, каб уставіць дакладныя рэгулятары тэмпературы і лічыльнікі цеплаэнергіі. Тады не траціў б дарма цяпла праз адкрытыя вокны і не выкідалі б грошай на лячэнне ад прастуды. Мы забедныя, каб без толку выкідаць грошы, а ашчаджаць трэба не толькі багатым, але галоўным чынам такім як мы.

**Ян Дрозд**
**Беласток**

# Запрашэнне

Ваяводскі асяродак анімацыі культуры і Піўзавод „Дайліды" сардэчна запрашаюць на чарговы канцэрт з цыкла „Падляшскія сустрэчы з арыяй", які адбудзецца 28 красавіка а 18 гадзіне ў вялікай зале Палаца Браніцкіх.

Прадугледжваецца выступленне тэнара сусветнай славы Веслава Охмана і сапраністкі Вялікага тэатра ў Варшаве Ізабелы Кпасінскай у суправаджэнні Камернага аркестра з Ломжы пад дырэкцыяй Тадэуша Хахая. У іх выкананні — найбольш вядомыя арыі з опер і аперэт. У перапынку — пачастунак півам!

# Дзяўчаты

## — найлепшыя ў беларускай мове!

У Бельску-Падляшскім адбыліся цэнтральныя элімінацыі II Алімпіяды па беларускай мове для вучняў сярэдніх школ. Арганізавалі яе Кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, Кураторыя асветы, Аб'яднанні супрацоўніцтва Польшча — Усход і Польшча — Беларусь ды Галоўнае праўленне БГКТ.

Лаўрэаткамі сёлетняга фіналу Алімпіяды сталі самыя дзяўчаты: Галіна Сакоўская, Люцына Леанюк і Гражына Валкавыцкая — усе яны вучаніцы II Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Гайнаўцы ды Анна Дудзінская, Агнешка Сахарчук і Марта Дзмітрук — вучаніцы II АЛ у Бельску-Падляшскім.

Віншуем і зычым далейшых поспехаў у навуцы і ў асабістым жыцці!

**(яц)**

# Аб'ява

Музей народнай культуры ў Венгажэве і Саюз украінцаў у Польшчы арганізуюць у днях 31.05 — 1.06.1996 г. I Агульнапольскі фестываль дзіцячых фальклорных калектываў нацыянальных меншасцей у Польшчы.

Удзел у Фестывалі могуць прымаць танцавальныя, вакальныя і абрадавыя дзіцячыя калектывы.

Правілы Фестывалю і карту з заявай можна атрымаць у нашай рэдакцыі або непасрэдна ў арганізатараў:

Muzeum Kultury Ludowej
ul. Portowa 1
**11–600 Węgorzewo**

# Куды зойдзем „чорным” маршам?

Прайшлі апошнім часам па польскіх гарадах шматлюдныя маршы: „чорныя”, „жалобныя”, „маўчання” або яшчэ з іншымі назвамі. Як пратэст супраць некантралюемага росту бандытызму на вуліцах і бяссілля паліцыі. Тысячы людзей патрабавалі суровых пакаранняў злачынцаў — уключна з шыбеніцай, — узмацнення кампетэнцый службаў аховы правапарадку і больш для іх грошай.

Арганізатарамі гэтых дэманстрацый пратэсту былі пераважна студэнты. Як свет светам, такога мусіць яшчэ не было, каб студэнты дамагаліся грошай на паліцыю. Гэтыя дзве групы ніколі не адзначаліся любоўю адна да аднае, калі наогул не вялі адкрытай вайны між сабою. Адкуль цяпер такая прыхільнасць?

Можна зразумець боль па забітым у белы дзень у цэнтры горада калегу. Можна зразумець таксама страх. Але трэба памятаць, што „страх гэта палітычны тавар”, як напісаў у тыднёвіку „Polityka” (ад 6 красавіка) Лешак Бэндкоўскі.

Мяне гэтыя маршы палохаюць. Не бязлітаснай пазіцыяй іх удзельнікаў да бандытаў. Кара смерці, гэта перш-наперш маральнае пытанне і кожны сам павінен адказаць, ці ён за, ці супраць. Мяне непакоіць палітычны падтэкст такіх дэманстрацый. Гляньма ў мінулае, да чаго дэмакратычныя дзяржавы прыводзіў вулічны натоўп, які патрабаваў спакою, парадку, працы, хлеба. Дарэчы тут прыпомніць Веймарскую Рэспубліку і прыход Гітлера да ўлады. Або на адзінаццаць гадоў ранейшы марш „чорных кашуляў” Мусаліні на Рым.

**Ці ў Польшчы стала сапраўды так небяспечна, што патрабуем нейкага надзвычайнага становішча?**

Памятаю, як адна мая знаёмая ў Нью-Йорку перасцерагала мяне перад карыстаннем тамтэйшай падземкаю. Як потым выяснілася, сама не ездзіла ў метро ўжо пятнаццаць гадоў, а ўсе інфармацыі пра напады, гвалты і забойствы ў гэтым сродку транспарту брала з прэсы і тэлебачання.

Я не аспрэчваю даных паліцыі пра злачыннасць у краіне. Разумею таксама прычыны росту гэтай з'явы: змена грамадска-палітычнага ладу, а з тым і празмерная асцярожнасць паліцыі, адкрытыя межы і ўрэшце вялікія грошы ў абароце. Але не забывайма, што сваю ролю ў раскручванні грамадскай істэрыі адыгрываюць і журналісты. Зрэшты, па-мойму, не толькі па сваёй віне. Развіццё электронных мас-медыяў і паскарэнне журналісцкага перакazу ствараюць магчымасць хутка і падрабязна паказаць амаль усё, што праходзіць на зямным шары. У спаборніцтве за гледача, слухача і чытача прэсавыя агенцтвы, газеты, радыё- і тэлестанцыі даюць усё больш і больш сенсацыі. Складаецца ўражанне, што вакол адны войны, жахлівыя забойствы, а ў найлепшым варыянце — ашуканствы і крадзяжы.

Журналіст, аднак, толькі пакорны слуга грамадства. Падражае густам, піша і гаворыць пра тое, на што існуе запатрабаванне. На сенсацыю, як відаць, збыт ёсць. Людзі любяць глядзець тэлевізар і жахацца. І спіраль страху накручваецца датуль, што аж напалоханыя людзі выходзяць на вуліцу з патрабаваннем, каб нехта бараніў іх ад іхняга страху. Гатовыя яны ў гэты момант такому збаўцы не толькі ахвяраваць сёе-тое са сваёй кішэні, але і адмовіцца на яго карысць ад часткі сваіх грамадзянскіх правоў.

У васьмідзесятыя гады ў самвыдаце часта прыводзіліся словы, здаецца Леніна, што **дзяржава мае паліцыйны характар, калі паліцыянт зарабляе больш за настаўніка.** Жыццё правяло карэктуру гэтага сцверджання. Іншыя былі роля і магчымасці паліцыі ў ПНР, іншыя цяпер. Адно засталося такое самае — і тады паліцыянт зарабляў, і цяпер зарабляе больш за настаўніка. Чаму затым варункам добрай яго працы маюць быць дадатковыя грошы з майго кашалька. Такое самае права на прыбаўку маюць настаўнікі, лекары, вайскоўцы, пажарнікі і так без канца. А мой кашалёк не бяздонны і ўсім не хопіць. І яшчэ мне хочацца, каб кожны спачатку добра выконваў свае абавязкі, за што і мог бы спадзявацца слушнай узнагароды. Каб не было наадварот, маўляў, буду добра працаваць, але раней мне за гэта заплаціце.

Калі б я арганізаваў дэманстрацыю, дык нёс бы абавязкова транспарант: **„Паліцыі за такую працу — ні граша больш!”** І яшчэ пры гэтым верашчаў бы прахожым: **„Замнога правоў паліцыі, гэта канец свабоды!”**

Мікола ВАЎРАНЮК

# А хто там ідзе

„Чорныя маршы” маюць у Польшчы доўгую традыцыю. Пачынаецца яна з часоў Вялікага сейма, калі ў такім маршы дамагалася сваіх правоў варшаўскае мяшчанства.

Сёння жыхары вялікіх і малых гарадоў зноў выходзяць на вуліцу, каб дамагацца сваіх правоў. Скажа хтось: якіх правоў, дэманстранты ж пратэстуюць супраць бяссілля паліцыі і наогул дзяржавы перад ростам злачыннасці. Усё ж такі існасць справы — гэта права грамадзяніна жыць бяспечна. Дзяржава абавязана грамадзяніну бяспеку: ад вонкавага наезду і ад злачынцаў у самой дзяржаве. Такім чынам, нутраныя функцыі дзяржавы зводзяцца да функцыі начнога стоража. Так прынамсі думаюць кансерватыўныя лібералы.

Інакш сацыялісты. Паводле іх, дзяржава павінна даць грамадзяніну працу, заняцца яго здароўем і выхаваннем яго дзяцей, і, нарэшце, яго спакойнай старасцю. Грамадзян, якім гэта чамусьці не падабалася, сацыялісты гналі да пабудовы каналаў, дамбаў і гэтаму падобных дасягненняў сацыялізму. Такі спосаб думання і дзеяння характэрны быў як расейскаму камунізму, так нямецкаму нацыянал-сацыялізму і італьянскаму фашызму.

Не месца тут разважаць, наколькі польская „Салідарнасць” была рухам сацыялістычным. Абмяжуемся да таго, што значная частка салідарніцкіх дзеячаў адсядзела сваё ў турме на правах крымінальных заключаных. Палітвязні ў сацыялістычнай дзяржаве і быць не маглі. Помню (бо і я там быў), што крымінальнікі лічылі сябе таксама „ахвярамі камуны”. Таму і добра трактавалі палітычных. Нешта з гэтага перанялі і ўдзячныя зняволеныя салідарнікі. Да таго значная частка палітвязняў, і тычыцца гэта якраз іхняй эліты, была левых поглядаў. Паводле левай сацыяпсіхалогіі, злачынец гэта ахвяра грамадства. Адтуль узялася духоўная патрэба палегчыць лёс турэмшчыкаў.

Ідэя была высакародная, але, відаць, перастараліся. Злачыннасць расце, а крыміналісты здаюцца бяскарнымі. Такое прынамсі адчувае звычайны чалавек. Дарэчы, гэтае адчуванне пацвярджаецца паліцэйскімі статыстыкамі. Асабліва ўражваюць людзей злачынствы здзейсненыя турэмшчыкамі ў час пропускаў. Пэўна ж ніхто не супраць пропускаў для асобных катэгорыяў вязняў. Скажам тых, хто сядзіць, напрыклад, за аліменты. Але хто здаровы на розуме будзе выпускаць на волю разбойніка? Дык няма дзіва, што людзі пытаюцца: што гэта за свабода, калі страх з хаты выйсці?!

Тым часам урад прапануе знесці смяротнае пакаранне. Яшчэ пры Герэку камуністы каралі смерцю хаця б за крадзеж мяса. З часу, як наварнуліся на еўрасацыялізм, зразумелі, што караць смерцю нельга, бо супраць гэтага выказваюцца заходнія таварышы. Сапраўдныя еўрапейцы баяцца, каб не прысудзіць кагосьці на смерць памылкова. Дык навошта тады наогул суд і нейкія прысуды? Такім чынам, пачынаецца з адмаўлення ад смяротнага пакарання, а канчаецца на агульнай бяскарнасці.

Для грамадзян, якія нікога не нападаюць, не рабуюць і не гвалтуюць, урад абяцае стварыць „зоны бяспекі”. У гэтых зонах ніхто на іх нападаць не будзе. Хіба ж гэта не рэзерваты для звычайных людзей. Рэшта краіны ідавочна пакінецца бандытам. Hulaj dusza, piekła nie ma!

Улічым яшчэ і тое, што надалей у сваёй сіле застаецца частка заканадаўства ваеннага становішча, якое „забыліся” адмяніць усе пазнейшыя ўрады. Такое заканадаўства створана было з думкай знішчыць палітычную апазіцыю. Такім чынам адраджаецца падзел вядомы са сталінскіх лагераў: на добрых крымінальных і дрэнных палітычных.

Магчыма людзі, якія прымалі ўдзел у „чорных маршах”, далёкія былі ад такіх думак. Магчыма, на вуліцу выгнаў іх звычайны страх. Тым не менш, не дамагаліся яны ні працы, ні хлеба, ні імперыі „ад мора да мора”. Відаць, працу і хлеб здабываюць самі. Падобна арганізатары маршаў — студэнты, якія штораз болей плацяць за навуку.

Дэманстранты патрабавалі ад дзяржавы адно таго, каб яна была добрым начным сторажам. А гэта абазначае, што нараджаецца новая грамадская і палітычная сіла. Дзвесце гадоў таму ў „чорным маршы” дамагаўся сваіх правоў „трэці стан”. Сёння ў „чорных маршах” ідзе сярэдні клас, які сфармаваўся за апошнія некалькі гадоў.

Алег ЛАТЫШОНАК

# „ТЭСТ” — новае выданне паграніччa

На факультэце педагогікі і псіхалогіі філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку 30 сакавіка г.г. праводзілася прамоцыя другога нумара новага навуковага квартальніка **„Тэст”**, а заадно і інаўгурацыя дзейнасці **Інстытута міжкультурнай адукацыі.**

— „Тэст” мае шанц інтэграваць акадэмічнае асяроддзе Беластока, — сказала галоўны рэдактар доктар Тэрэса Занеўская. — Што найбольш цешыць, гэта тое, што ў рэдагаванні нашага зборніка, акрамя вопытных навукоўцаў, прымаюць удзел і маладыя аспіранты, і студэнты, на якіх глядзім з вялікай надзеяй.

„Тэст” гэта навуковы журнал факультэта педагогікі і псіхалогіі Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, выдаваемы *Trans Humana*. Апрача навуковых распрацовак на псіхалагічныя і педагагічныя тэмы, знаходзяць у ім месца эсэ, артыкулы, рэцэнзіі, справаздачы і занатоўкі на тэму літаратуры і літаратурнага жыцця, асабліва на тэмы матываў паграніччa і „малой айчыны”, а таксама вершы. Напрыклад, у гэтым нумары Генавефа Коць-Сэнюх занялася „Адкрытасцю да іншых у паэзіі Яна Чыквіна”, рэцэнзію „Надзея Артымовіч, Алесь Разанаў: Дзверы. Тэкст і кантэкст” прапануе чытачам Тэрэса Занеўская. Вершы замешчаныя ў часопісе (Яна Чыквіна, Ежы Плютовіча, кс. Паўла Гайнча, кс. Яна Твардоўскага) прачытаў на сустрэчы вядомы акцёр Войцех Семян.

Пачаў сваю дзейнасць на факультэце педагогікі і псіхалогіі Інстытут міжкультурнай адукацыі. Прафесар Ежы Нікітаровіч упэўнены, што праз нейкі час будзе існаваць тут сур'ёзны цэнтр даследаванняў паграніччa. Праф. Анджэй Садоўскі, сацыёлаг, даследчык нацыянальных меншасцей, таксама ахвотна падзеліцца вопытам з калегамі з суседняга факультэта. Ян Чыквін з энтузіязмам выказаўся на тэму зместу „Тэста”, прапанаў наконт дзейнасці Інстытута і прасіў не забываць пра літаратуру, — каб для вынікаў даследаванняў і аналізаў, а таксама і твораў пісьменнікаў знайшлося месца ў друку.

Ян Леанчук прывёў словы Адама Міцкевіча пра тое, што „Пачуццё і вера больш яму кажуць, чым мудрацова шкельца і вока” ды заўважыў, што, паводле яго, гэта ўсё — няўлоўны дух ды вера і падыход з інструментамі навукі ў „Тэсце” выступаюць разам, адно другому не перашкаджаюць, а наадварот, дзейнічаюць у суладдзі і сімбіёзе. Мае Я. Леанчук надзею, што наступіць час „святла”, — такі час, калі не будзе антысемітызму, антыбеларускіх і антылітоўскіх адносін, але не будзе і антыпаланізму.

У дыскусіі ўзяў голас і Генеральны консул Рэспублікі Беларусь Міхаіл Слямнёў. Гаварыў ён між іншым пра развіццё навуковых кантактаў Віцебскага дзяржаўнага універсітэта (яго роднага) з нашым, беластоцкім і магчымасцях абмену вопытам даследавання паграніччa.

Альжбета Чыквін у сваім выказванні сканцэнтравалася на праблемах міжкультурнай адукацыі. Яе выступленне, кароткае і змястоўнае, павінна зацікавіць настаўнікаў і будучых педагогаў.

— Дзейнасць Інстытута, — сказала яна, — павінна канцэнтравацца на такіх пытаннях: на пабольшанні ведаў на тэму меншасцей, якая ў настаўнікаў практычна мінімальная, на нівеліраванні ўжо сцверджаных элементаў у свядомасці настаўнікаў (вылучэнне дзяцей з прычыны іх іншасці заўважаецца імі як недэмакратычнае, як умешванне настаўніка ў інтымныя справы), на навучанне канкрэтных паводзін у канкрэтных сітуацыях, якія здараюцца ў класе (усе яны ў нас скаталагаваны). Калі справа ідзе пра пытанне мовы, то рэформы навучання мовы не выйдуць ад такой малой і распыленай групы, якой ёсць напрыклад настаўнікі беларускай мовы. Наша роля — тэарэтычная і інтэгруючая. Наступнае заданне — рэалізацыя праграм для большасці, якія маглі б уводзіцца ў жыццё ў школах — пачатковых, сярэдніх, але нават і ў садках. Ведаем генез стэрэатыпаў — у малых дзяцей ужо ёсць стэрэатыпы і нацыянальныя прадузятасці... На нашым факультэце дзейнічае Інстытут эстэтыкі. Яго роля — у падтрымцы, даследаванні і захоўванні традыцый культуры нацыянальных меншасцей. Сярод меншасцей гвалтоўна развіваецца працэс паланізацыі. Праз некалькі гадоў можа быць запозна. Маю надзею, што факт стварэння Інстытута міжкультурнай адукацыі будзе інтэграваць амбіцыі асяроддзя, звязанага з праблематыкай меншасцей, будзе ўспамагаць дзеянні розных груп. Гэта вельмі каштоўная ініцыятыва.

Міра ЛУКША

# Сербалужычане

Тысячу гадоў таму тэрыторыя на ўсход ад ракі Эльбы была заселена славянамі. Іх узаемаадносіны з феадальнымі нямецкімі дзяржавамі былі больш складаныя, чым прадстаўляецца гэта ў сучасных падручніках па гісторыі. Сёння ва ўсходніх ландах Нямеччыны — Саксоніі і Брандэнбургіі пражываюць шэсцьдзесят тысяч аўтахтонных сербалужычан, якія з'яўляюцца часткай тых славян, якія ў IV і V стагоддзях падаліся на поўдзень, заваёўваючы землі над Адрыятычным морам.

Лужыцы — гэта краіна па абодвух баках ракі Нысы. Аднак на ўсходнім яе беразе, на тэрыторыі Ніжняй Сілезіі, нічога ад сербалужыцкай культурнай спадчыны не засталося. Апошнія прадстаўнікі гэтай маленькай нацыі былі вывезены з Польшчы разам з немцамі ў 1945 г. У Саксоніі і Брандэнбургіі, нягледзячы на неспрыяльныя перыяды і прывабнасць нямецкай культуры, сербалужычане захавалі сваю мову, культуру і нацыянальную адасобленасць. У сярэдневякоўі лужыцкія славяне апынуліся ў падобнай сітуацыі, як чэхі і сілезцы. Гарады і княжацкія палацы былі германскія, вёскі — славянскія. Германізацыю сялян затрымала рэфармацыя. Лужыцы апынуліся ў пратэстанцкай Брандэнбургіі, дзе згодна з евангелісцкімі прынцыпамі літургія і казанні былі на мове люду. Пратэстанцкія святары пераклалі тады Святое Пісанне, катэхізмы і спеўнікі на сербалужыцкую мову. Магчыма, што гэта быў асноўны фактар, які ўратаваў невялікую грамадскасць ад асіміляцыі ў нямецкім моры.

Мова сербалужычан была жывая і таму ў 1818 г. урад Брандэнбургіі выдаў распараджэнне, якое дазваляла ўвесці яе ў школы. Урад Саксоніі вырашыў нават абавязкова вучыць на гэтай мове ўсіх дзяцей у гмінах, дзе жылі сербалужычане. У палове XIX стагоддзя існавалі ўжо сербалужыцкія культурныя таварыствы, выдавецтвы, газеты, студэнцкая арганізацыя. У час першай сусветнай вайны некаторыя дзеячы хацелі далучыць Лужыцы да ўзнікаючай чэхаславацкай дзяржавы і стварыць у яе рамках аўтаномную адзінку. У трыццатых гадах гітлераўцы рабілі спробы далучыць найбольшую сербалужыцкую арганізацыю „Дамавіна" да НСДАП, але з увагі на пратэсты лідэраў яе дэлегалізавалі. Фашысты не забаранялі, аднак, карыстацца сербалужыцкай мовай у школах і касцёлах. Пасля вайны нанава з'явіліся прапановы далучэння Лужыцаў да Чэхаславакіі. Гэтым разам атрымалі яны падтрымку чэшскіх палітыкаў. Нямецкія камуністы вымушаны былі шмат напрацавацца, каб пераканаць Сталіна, што будуць яны шанаваць славян у сваёй дзяржаве. У 1950 годзе сербалужычане мелі свае навуковыя інстытуты, дамы культуры, выдавецтва, школы, тэатр, радыёперадачы. Цаной гэтага было тое, што іх арганізацыя „Дамавіна" стала філіялам партыі нямецкіх камуністаў.

Лёс сербалужычан у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы шмат у чым напамінае сітуацыю беларусаў Беласточчыны ў Народнай Польшчы. На пачатку шасцідзесятых гадоў іх грамадскасць налічвала каля 80 тысяч асоб. У школах лужыцкай мове вучылася тады звыш 12 тысяч вучняў. У 1964 г. улады ГДР аб'явілі, вядомую таксама і нам, „добраахвотнасць навучання" роднай мове. Паслядоўнасці былі амаль такія самыя. Праз год колькасць вучняў, якія вывучалі сербалужыцкую мовы панізілася да 3 тысяч. У семідзесятых гадах былі знішчаны дзесяткі сербалужыцкіх вёсак, дзе ўзніклі каменнавугальныя шахты. Такі гедээраўскі варыянт Семяноўкі. У палове васьмідзесятых гадоў з'явіліся першыя сербалужыцкія самвыдаты і апазіцыйныя арганізацыі.

Далучэнне ГДР да ФРГ у 1989 г. вельмі карысна паўплывала на лёс лужыцкіх славян. Парламенты Саксоніі і Брандэнбургіі ў 1992 г. выдалі законы, якія гарантуюць ім юрыдычнае і фінансавае забеспячэнне развіцця роднай мовы і культуры. Сёння існуюць тры сербалужыцкія навуковыя таварыствы, арганізацыі мастакоў, музыкаў, акцёраў, рэжысёраў, два навуковыя інстытуты — у Будзішыне і ў рамках Лейпцыгскага універсітэта, студыя спецыяльнай педагогікі, тэатр, кінастудыя, радыёстанцыя, навуковыя і музычныя выдавецтвы, тры сярэднія школы.

Праблемай гэтай меншасці, таксама як нашай на Беласточчыне, з'яўляецца працэс асіміляцыі, які маланкава пашыраецца ў сённяшні час. Шмат маладых сербалужычан пакінула свае вёскі і мястэчкі, каб у пошуках лепшага жыцця пасяліцца ў заходніх ландах Нямеччыны. Так як і ў нас на Беласточчыне, сербалужыцкая мова гучыць ужо толькі па вёсках, а ў гарадах — выключна сярод інтэлігенцыі. Хаця ўрады Саксоніі і Брандэнбургіі ўсебакова дапамагаюць сваім славянам у захаванні іх тоеснасці і культурнай спадчыны, асіміляцыя не спыняецца. Яшчэ на пачатку шасцідзесятых гадоў гэтая грамадскасць налічвала каля 80 тысяч асоб. Сёння аптмісты гавораць пра 60 тысяч. У 1992 г. улады Саксоніі вырашылі ўва ўсіх школах ланда весці навучанне гісторыі і культуры лужычан. У тых школах, дзе вучацца сербалужыцкія дзеці, навучанне іх мовы стала абавязковае для ўсіх вучняў. У школах, у якіх большасць вучняў складаюць славяне, на іх мове вядуцца ўсе заняткі. Нямецкая мова з'яўляецца там толькі адным з прадметаў. У Саксоніі працуе 15 сербалужыцкамоўных прадшколляў і 17 двухмоўных. Разам ува ўсіх на занятках удзельнічае звыш двух тысяч дзяцей. У 50-ці школах у 1994 г. сербалужыцкай мове вучылася 3 687 вучняў. Гэта амаль столькі ж сама, што ў нас вывучае беларускую мову. З усіх бакоў, аднак, чуецца, што нас тут на Беласточчыне пражывае каля 300 тысяч. Лужычан — толькі 60 тысяч. Іх існаваннем зацікаўлена нямецкая большасць.

**Яўген Мірановіч**

# Новыя вершы

**Алена АНШЭЎСКАЯ**

### Прадвесне '96

На поўнач адляцелі
чорныя вароны,
канец сакавіка — зіма за намі.
Па вуліцах сталіцы
працягваюць рукі
дзеці з бліскучымі вачамі.
А побач жабракоў і хворых,
што на лякарствы міласціну
просяць,
крычаць нахабныя рэкламы
і гандляры ліхі тавар разносяць.
На скрыжаванні ў вядры зялёным
стаяць чырвоныя цюльпаны,
жанчына з тварам хваравітым
просіць: — Купіце, калі ласка,
пані...
— Яны тут наляцелі як вароны! —
паказваючы жабракоў усклікнуў
дабрадзей,
— але, вароны адляцелі —
а ім куды?
Бяду ў горадзе скрываць лягчэй.

### Вяснянка

„Кросны даткала,
хату пабяліла,
вясну прыгукала,
па хвораст схадзіла".

Так калісь спявала
песню-вяснянку
мая бабулька
— нібы калыханку.

Цяпер ужо не трэба
па хвораст хадзіці,
няма тае хаты,
каб яе бяліці.

Непатрэбны кросны,
ужо не ткуць самы.
Усё, што ім патрэба,
купляюць у краме.

Ужо ніхто не ставіць
жорнаў у сенях.
Дзе што асталося,
пазбіраў Майсеня.

Памяць аб народзе,
аб умовах быту,
у немых экспанатах
у музей закрыта.

### Пасля дажджу

Прайшоў вясновы дождж —
зямля паруе...
А на галінках бэзу
алмазная раса.
Ліловаю алеяю іду
і дзякую Тварцу
— такая тут краса!
Хацелася б устрымаць хвілінку
і падзяліцца з кімсьці блізкім
па душы
адною, мокраю, духмянаю
галінкай —
пакрай мяне прайшоў
на жаль — чужы.

**Барыс РУСКО**

### Можна зразумець

**1**

Думка плыве,
а прысутнасць —
дзе думка
і дзе свет.
Неадольнае
адольным,
толькі не ў гэтым месцы,
не ў гэтым часе,
не ў гэтай форме
і вымярэнні.

**2**

І дадзена ўвайсці
і ўбачыць
вытанчанасць твора.
Што вачам недаступна,
чытае розум.

**3**

Той свет відавочны,
і можна зразумець
яго іншасць.
Рэчаіснасць уяўная
праніклівая,
яна ў нас;
а што ў нас —
дае знак
святлом азарэння.

### У Невядомым

У вялікім Невядомым
не лопаюць зоркі,
і холад не холад.
Добра не мець кашулі
і падаткаў на шыі.
Каморнік нямко,
без свісткоў паліцыя —
у Дэдалевых крылах
чакае зорнага неба.
І касых вокан
не ведаюць будні.

### Адыходжанне

Выйшаў,
а дзверы адчынены,
а фатаграфія распалавінена
ў куце,
а побач
тры кроплі салонай вады,
а дым з папяросы —
ужо стужка малазначная.
І вакол сценаў крывізна,
і пры стале крывізна.
Паволі гасне полымя страсці.

### Праява

Ведаю,
адшукаю дзверы ў гушчары
дарог
і адчыню іх да змроку,
і прад світаннем,
і ноччу, калі не да сну,
і днём мітуслівым,
і проста,
калі ўбачу, як нехта
паўз полымя і попел
бяжыць па жменю слоў.

### Без баласту

Пазбірай хвіліны
і,
не чакаючы аўтарытэтаў,
дай ім ацэнку,
і вазьмі толькі тое,
што дапаможа,
без лішняга ўступу,
адрадзіць чарговы дзень.

### Ухіленне

Тут каменуюць цела,
там укрыжоўваюць душу,
пакута ўсюды,
як агонь Гефестаў.
Мо на хвіліну астуджу думку
з акна ў белым лесе.

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Мае турніры

Я вучуся ў пятым класе, а танцам займаюся ад другога класа. Напэўна, не ўсе ведаюць, што таварыскі, ці, як яго інакш называюць, бальны танец гэта асобны від спорту. Я калісьці таксама пра гэта не ведала, а пайшла ў танцавальны клуб, якому мы далі пасля назву „Ціп-топ", каб навучыцца танцаваць.

Танец мяне цягнуў да сябе, быццам магнітам, ад наймалодшых гадоў. У хаце сказалі: „Ну, нарэшце супакоіцца. Вышуміцца ў клубе". І праўда, тры разы ў тыдзень я хаджу на заняткі па тавырыскаму танцу, а яшчэ здараюцца дадатковыя ўрокі, калі прыязджаюць нейкія інструктары з Ольштына, Гамбурга ці Лондана.

Летам мы ездзім у так званыя танцавальныя лагеры, дзе не столькі адпачываем, колькі інтэнсіўна працуем над новымі праграмамі. Была я ўжо ў такім лагеры ў Белавежы, у Элку, а сёлета збіраемся ў Алецка.



У Беластоку ў даны момант існуе каля 15 клубаў тавырыскага танца: „Ціп-топ", „Рытм", „Танга", „Кадрыль", „Радуга", „Артэля" і шмат іншых. Цікава спаборнічаць з танцорамі з розных клубаў Беластока, але яшчэ цікавей ездзіць на розныя турніры ў іншыя гарады, калі сустракаюцца дзеці з усяе Польшчы. А зрэшты, і на беластоцкіх турнірах выступае шмат гасцей.

У мінулым годзе толькі ад студзеня да чэрвеня я брала ўдзел у 11 турнірах. Танцавала ў пары з Матэвушам Панінскім, з якім вучуся ў адным класе. Два разы мы выступалі ў Варшаве: першы раз — у Палацы культуры і навукі, а другі — у Акадэміі фізічнага выхавання, а быў гэта вядомы турнір „Рамона", які адбываецца штогод, або нават два разы ў год: вясною і восенню.

Цікавы быў турнір, які адбыўся ў лютым мінулага года ў Кентшыне. Здавалася, з'ехалася туды цэлая Польшча. Былі мы там два дні. У першы дзень танцавалі стандартныя танцы, а на другі — лацінаамерыканскія. Удзельнікаў было шмат і турнір надта зацягнуўся. Затое як весела было вяртацца дахаты, калі ўжо, як кажуць, звалілася гара з плеч і ўжо ніхто не хвалюецца. Хаця была ноч, ніхто ў аўтобусе не спаў; дзеці спявалі, жартавалі, смяяліся.

Найцяжэй бывае перад выхадам на паркет. Колькі вачэй на цябе глядзіць, як пільна сочаць за кожным тваім рухам суддзі! А ты не можаш паказаць, што ў цябе пахаладалі рукі. Нельга і выгляду падаць, што ты хвалюешся, а трэба ўсміхацца, рухі твае павінны быць лёгкія і свабодныя.

Але найбольш драматычным быў для нас, кажу табе, „Зорачка", турнір у Сувалках, які адбыўся ў сакавіку 1995 года. Таксама з'ехалася шмат пар. Турнір быў двухдзённы. Галоўным суддзёю быў сам Паўлёвіч з Ольштына, шматразовы чэмпіён Польшчы, вядомы ў свеце танцор. І нават някепска нам танцавалася. Ды вось бяда: мы стаялі даволі далёка ад мікрафона і не пачулі, калі нас выклікалі танцаваць венскі вальс. „Усё прапала! Не выйшлі на паркет! Празявалі!" — карцілі мы сябе ў думках. Вядома — не танцавалі, дык і пунктаў за вальс няма.

І ўяві сабе, „Зорачка", наша здзіўленне, калі мы даведаліся, што „настукалі", нягледзячы на промах, столькі пунктаў, што па стандартных танцах занялі ў першы дзень другое месца! Вось колькі перажылі!

На жаль, на другі дзень, у лацінаамерыканскіх танцах, мы дайшлі толькі да паўфіналу і ў суме змясціліся ў фінале на шостым месцы. Больш таго, атрымалі ў тавырыскім танцы клас „Е". А столькі перажылі!

У чэрвені быў яшчэ цікавы міжнародны турнір у Лапах. Прыехалі дзеці з Менска і Масквы. Хадзілі дзяўчынкі адтуль такія прыгожанькія — як лялечкі. І, вядома, перамаглі нас. Цікава было з імі спаборнічаць.

У тым жа чэрвені ў агульнапольскім турніры, арганізаваным клубам „Бастон", мы з Матэвушам здабылі клас „D".

Гэта быў для мяне апошні турнір у мінулым годзе. Ад жніўня я пачала танцаваць з новым партнёрам і трэба было многа трэніравацца. У другой палове года мы яшчэ ў турнірах удзелу не бралі. А што было ўжо ў гэтым годзе, напішу пазней.

**Адрыяна Семянюк**

*Фота А.Ч.*

**Уладзімір Караткевіч**

## Эмігранты

Двух зуброў ад нетраў Белавежы
На Каўказ завезлі, аддалі.
Там лугі зялёныя, бязмежныя,
Там багата сонца і зямлі...
Хмары над лясамі залатымі,
Соль, вада, травіцы смачнай жмут,
Лёгка дыхаць, так як на радзіме,
Але ў кожнага ёсць родны кут.
Дзеці гэтага не разумеюць,
Нарадзіўшыся ў чужым бары,
І на тое, як яны дурэюць,
Непахвальна дзівяцца зубры.
На празрыстых, светла-сініх водах
Сняцца ім айчыны берагі,
Папараць, імшаныя калоды,
Сінія пад месяцам лугі,
Сінія пралескі на сугрэве,
Мухамор чырвоны ля азёр
І калоны манументаў-дрэваў,
Што вярхамі дастаюць да зор.

## Верш бабкі пра жабку

Дзядзька Алесь даў у падарку
Маленькаму Радку гумовую Рабку
Жоўта-зялёную жабку.
А Радзік узяў жабку
За лапку
І — бах!
Зранку ўстае
І жабку шукае,
За лапку жабку
Хапае
І — бах!
Радзік жабку ціскае,
Яна яму піскае.
Рады Радзік жабцы
На бабчынай канапцы.

**Іда Кавалевіч**

## Што будзе далей...

Зіма канчаецца,
Снег яшчэ ляжыць на зямлі.
Вясна пачынаецца,
Ужо прыйшоў красавік.
Пазней будзе лета,
Буду гуляць са светам.
На канцы восень
І школа.
Што будзе далей? —
Я пытаюся.
Ужо знаю:
Зіма, вясна-красна,
Лета і восень ад верасня...

**Агнешка Качаноўская**
**VI кл. ПШ у Чыжах**

# Навошта ў хаце парог?

*(пачатак у папярэднім нумары)*

З парогам звязаны і вясельныя звычаі. Яшчэ і цяпер малады пераносіць цераз парог сваю толькі што павянчаную жонку. Практыка гэта мела за мэту абараніць маладую ад магчымых адмоўных да яе адносін продкаў, якім яна магла проста не спадабацца. Малады такім дзеяннем адзначаў сваю еднасць з жонкай і прасіў продкаў, каб яе ўспрымалі як сямейніка.

Існуюць і звязаныя з парогам прыкметы. Лічыцца, што чалавека, які ўваходзіць у хату, чакае непрыемнасць, калі ён спатыкнецца аб парог. А калі хтонебудзь спатыкнецца выходзячы — то знак, што гэты чалавек сюды хутка вернецца.

Садзіцца на парог або стаяць на ім — верылі продкі — непрыстойна. Датычыла гэта асабліва дзяўчат і хлопцаў. Неасцярожнасць магла б давесці іх да адзіноцтва. Забаранялася сядаць на парог і цяжарнай жанчыне, бо дзіця магло б нарадзіцца з дрэннай памяццю. Каб пазбегнуць у будучай сям'і сварак, маладыя пры ўваходзе ў царкву для вянчання стараліся не наступіць на парог.

Яшчэ адзін паэтычны звычай. Калі маладая перад шлюбам абыходзіла і развітвалася паклонамі з бацькоўскай хатай, яна кланялася кожнаму кутку і, нарэшце, кланялася да зямлі парогу, гаворачы словы: „Парогу, парогу! Я па табе хадзіла, ножкамі таптала, прабач мне, я больш не буду!"

Вельмі часта выкарыстоўваўся парог як рытуальнае месца ў народнай медыцыне. Напрыклад, каб ніхто не сурочыў дзяцей, купалі іх на парозе, прычым ваду лілі праз рэшата. Калі дзіця баялася пасля перапуду, то тады перасякалі на парозе 12 дубчыкаў ад старога веніка. Дзяцей, якія хварэлі астмай, клалі каля парога, накрывалі кажухом і пераганялі цераз парог некалькі авечак. Людзі верылі, што авечкі, пераступаючы парог і хворае дзіця, забіраюць з сабой хваробу.

Пры ткацтве жанчыны вельмі асцерагаліся, каб іх тканіну хто-небудзь не сурочыў. Таму аснову абсыпалі пылам, які знаходзілі на парозе.

Да „парогавай" магіі звярталіся дзяўчаты, каб закахаць у сабе ўпадабанага хлопца. Для гэтага рабілі наступнае: з новага веніка бралі дубец, клалі яго каля парога. Неабходна было, каб хлопец пераступіў праз парог. Пасля гэтага неслі дубец у лазню, кідалі яго на парог і прыгаварвалі: „Як сохне гэты дубец, няхай так сохне па мне (імя хлопца)".

Важнасць парога ў жыцці людзей адлюстроўваюць прыказкі і прымаўкі: „Не стаўшы ў парозе, не будзеш сядзець на покуці", „Ты яго лаеш, а ў парозе яго стаіш", „Беднаму Бог залоціць парог", „Без Бога ні да парога". **А.А.**

 

# Крыжаванкі № 17

### Польска-беларуская панарамная крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі, а адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 12:** рампа, рэха, ар, хутар, жанр.

Узнагароды — запісныя альбомныя кніжкі — выйгралі: **Агнешка Качаноўская** з Чыжоў, **Павел Пашко** з Ласінкі і **Аня Селеванюк** з Шастакова.

**Віншуем!**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | BRZOZA | | ROGACZ | | | RADŁO |
| | MIECZ | | | PUCHAR | | |
| | WIECZÓR | | | | | |
| | HUBA | | | | | |
| | | | SZAŁ | | | |
| | ZĄB | WILLA | | | | |

### Крыжаванка

*(апрацавала Аня Саеўская кл. VI ПШ у Кленіках)*

Цягне воз.
Піша іх Віктар Швед.
За лютым.
Растуць там яблыкі і грушы.
Плыве ў рацэ.
Беларуская газета.
Любіш яе чытаць.
Старонка для дзяцей у „Ніве”.

*Вучні трэціх класаў бельскай „тройкі” са сваёй „беларускай Мажаннай”.*

## Вітай, „Зорка”!

Хачу табе, „Зорка”, расказаць, як вучні з нашай школы прывіталі вясну. Спачатку адбыліся спаборніцтвы чацвёртых класаў. Потым было многа конкурсаў, напрыклад, на найпрыгажэйшую і найцікавейшую вопратку. Мая сяброўка і сябар у гэтым конкурсе заваявалі восьмае месца. У некаторых класах адбыліся таксама фантавыя латарэі. Малодшыя дзеці тапілі пудзіла зімы, але відаць, дрэнна, бо зіма не адыходзіць. Вясну прывіталі мы аднак цікава і весела.

**Ева Прафірук**
**кл. V „а” ПШ н-р 3**
**у Бельску-Падляшскім**

*Малюнак Паўліка Кубаеўскага*

*Ганна Кандрацюк,*
*Аляксандр Максімюк*

# Юр’еўскі карагод

*Каментарый: убягае вядзьмарка...*

ВЯДЗЬМАРКА:
Вы тут сабе спяваеце, гасцюеце, вясну вітаеце, а пра мяне і забылі.

ХЛОПЦЫ:
Не, не забылі.

ГАСПАДАР:
Ад рання вас чакаем. Я ўжо, як мне параілі, статак тройчы з вярбой абышоў.

ВЯДЗЬМАРКА:
А ці хлопцы ў траве пакачаліся, каб дужымі быць?

ХЛОПЦЫ:
Пакачаліся, як толькі першы гром пачулі.

ГАСПАДЫНЯ:
Кажуць, што як на Юр’я дождж пойдзе — год ураджайны будзе.

ВЯДЗЬМАРКА:
А вы дзяўчаткі расой сёння памыліся, каб прыгожымі ўвесь год быць?

ДЗЯЎЧАТЫ:
Не толькі памыліся, але і над рэчку адвячоркам збіраемся карагоды вадзіць.

ВЯДЗЬМАРКА:
Ну, то глядзіце, каб усё па традыцыі было! (*а да дзетак*) Дзеткі, а вы бусла ўжо бачылі?

ДЗЕЦІ:
Бачылі-бачылі! На лузе ў чырвоных боціках ходзіць. Жабаў адбірае.

СЯЛЯНКА:
А легенду пра бусла чулі?

*Каментарый: іншая сялянка пачынае расказваць легенду...*

*Было гэта вельмі даўно. На зямлі развялося такое мноства гадаў, што не стала ад іх жыцця ні людзям, ні жывёлам. І парашыў адзін чараўнік знішчыць гадаў, папаціць у якойсці бяздонніцы. Сабраў ён іх у вялізны скураны мяшок, завязаў, узваліў на плечы аднаму неразумнаму чалавеку і загадаў укінуць у паказанае прадонне. Як толькі чалавек рушыў з месца, то ўсе гады, якія былі ў мяшку, заварушыліся, засіпелі, засвісталі. І ўзяла чалавека цікаўнасць, што ён такое нясе.*

*Чалавек развязаў торбу ды і аслупянеў ад жаху. Гады ж тым часам вылезлі і распаўзліся ізноў па зямлі.*

*Разгневаны чараўнік не захацеў другі раз збіраць гэтую дрэнь і, накінуўшы на чалавека парожні мяшок, ператварыў яго ў бусла і загадаў збіраць гадаў-уцекачоў усё яго жыццё аж да самай смерці.*

*І ходзіць гэты пераўтвораны ў бусла чалавек з накінутым на плечы мяшком па лугах, палях, балотах ды збірае гадаў, але да гэтай пары ніяк сабраць не можа. З прычыны сваёй крэўнасці да чалавека гэты пярэварацень не адыходзіць далёка ад людскіх сяліб і мала баіцца людзей.*

ДЗЕЦІ:
А мы вершыкі ведаем!

1-АЕ ДЗІЦЯ:
Бусел-бусел клекатун
Узяў бабу за каўтун.
Баба ёго кулаком,
А ён бабу дзюбаком.

2-ОЕ ДЗІЦЯ:
Ходзіць бусел па балоце,
Кліча жабку на работу.
Жабка кажа: „Не прыйду”,
Бусел кажа: „Заплачу”.

ГАСПАДАР:
Паглядзіце на наша жыта, якое яно высокае — каравай у ім схаваецца.

ГАСПАДЫНЯ:
Кажуць, што калі каравай у жыце на Юр’я хаваецца, то ўраджай будзе.

СЯЛЯНКА:
Добра, што на Вербніцу былі маразы — цяпер спакойна агароды можна заводзіць.

ДЗЯЎЧАТЫ:
Пад’елі, палюбаваліся збожжам, давайце яшчэ Юр’ю святому заспяваем.

*Ой і Юр’ева маці, ой і Юр’ева маці*
*Дай па полі ідзе.*
*Ключы пахавала, ключы пахавала,*
*Зямлю не адамкне.*
*Зямлю не адчыніць, зямлю не адчыніць,*
*На малойцаў гукне.*
*Васілёсы малойцы, Васілёсы малойцы,*
*Выганяйце кароў.*
*Ды на Юр’еву росу, ды на Юр’еву росу,*
*На дзявоцкую кроў.*
*Што дзявоцкая краса, што дзявоцкая краса,*
*Спелу восень пашле.*

*ВЯСНЯНКА*

Павольна

Па-ма- жы ма- ці нам вя- сну гу- ка- ці Бо- жа дай Бо- жа дай Бо- жа па- ма- жы

*ЮРАЎСКАЯ*

Радасна

Да бы- ло у Юр’- я тры да- чу- шач- кі Да зя- лё- ны я- вар ду- бро- ва

*ОЙ І ЮР’ЕВА МАЦІ*

Павольна

Ой і Ю- р’е- ва ма- ці Ой і Ю- р’е- ва ма- ці дай па по- лі і- дзе.



**Талон „Зоркі” № 17**
**28.04.1996**



 

**Цэлую апошнюю дэкаду, ад 21 да 30 сакавіка г.г., працягваўся ў Беластоку IV Міжнародны тыдзень тэатра.**

# Беласток тэатральны

Патрэбна сёння немалая адвага, каб у сітуацыі, калі датацыі на культуру выглядаюць надта скромна, узяцца за арганізаванне такога грандыёзнага мерапрыемства, як Міжнародны тыдзень тэатра.

— Усё робіцца дзякуючы спонсарам, — катэгарычна сцвярджае Анджэй Якімец, дырэктар тэатра імя А. Вянгеркі, галоўны арганізатар гэтых дзён. — З грошай, атрыманых нашым тэатрам ад дзяржавы, не можам выдзеліць на гэту мэту аніводнай залатоўкі.

І яшчэ адно: трэба ўмець запрасіць такія тэатры і так падабраць рэпертуар, каб было, як кажуць расіяне, „и дёшево, и сердито”, ды каб яшчэ і глядач што-небудзь кеміў, бо хто ж гэта будзе ў стане зразумець аднача́сова англійскую і нямецкую, іспанскую і італьянскую, рускую і яўрэйскую, беларускую і літоўскую мовы...

Памятаючы, што ў мінулым годзе на спектакль літоўскага тэатра з'явіліся амаль адны вучні ліцэя з Пуньска, якія прыехалі аўтобусам у Беласток, дырэктар А. Якімец запрасіў з Вільні спектакль „без слоў”, хаця і рускага драматычнага тэатра. Шмат было музыкі і танца.

А з Мінска сёлета, з тэатра Янкі Купалы, — замест 76 чалавек, як у мінулым годзе, — прыехала ўсяго каля 20 асоб. Абышлося значна танней! Ды і наогул тэатры прыязджалі, выступалі і — дахаты.

І такім вось „хітрым” спосабам удалося прыняць у Беластоку прадстаўнікоў аж васьмі тэатраў з Польшчы і з-за граніцы. Выступілі: тэатр з Нью-Йорка „C.A.M. Art Company” са спектаклем „City of the sun” паводле Т. Кампанелы; Фармальны тэатр з Санкт-Пецярбурга з двума прадстаўленнямі: „Orlando furioso” Л. Арыоста і „Дзве сястры” на падставе прозы І. Тургенева, А. Чэхава, Сафокла і іншых; тэатр імя Янкі Купалы з Менска з п'есай Джона Озбарна „Азірніся ў гневе”; Рускі драматычны тэатр з Вільні; польска-нямецкая група з Фрэйбурга — Кракава; два тэатры з Польшчы: імя Віткацыя з Закапанага і „Кана” са Шчэціна, які прадставіў спектакль „Ноч” В. Ерафеева, узнагароджаны ў мінулым годзе ў Эдынбургу галоўнай узнагародай. Былі яшчэ дзве спявачкі, якія выступілі з рэчыталямі: Бэнтэ Каган з Осла (тэатр „Dybbuk”), якая пры перапоўненай зале спявала яўрэйскія песні на мове ідыш, англійскай і польскай, і Марта Шмігельская-Арнольд з тэатра Віткацыя ў Закапаным.

Падсумоўваючы сёлетні Тыдзень, трэба падкрэсліць, што прадстаўляў ён наскрозь сучасны рэпертуар. Несамавітая дэкарацыя, шмат гукавых, піратэхнічных эфектаў, а галоўнае — у спектаклях няма фабулы, а прадстаўлена толькі ідэі. Найбольш класічным яго прыкладам быў Фармальны тэатр з Пецярбурга, які, хаця быў створаны толькі ў 1988 годзе, то гасціў ужо на многіх фестывалях рускага і міжнароднага тэатральнага мастацтва, дзе меў вялікі поспех.

— Хаця найбольшая група рэфарматараў выводзіцца з рускага тэатра, — уздыхае дырэктар А. Якімец, — давялося пераломваць бар'еры. Дастаткова было раней сказаць: руская п'еса, рускі тэатр, рускі акцёр, як гэта выклікала знеахвочанне, мінімальнае зацікаўленне.

У гэтых адносінах (маю тут на думцы сучасны тэатр) дасканала прадставіліся таксама два польскія тэатры — з Закапанага („Доктар Фаўст” — С. Марлоў) і Шчэціна, ды тэатр з Вільні са спектаклем аўстрыйца Петэра Гандке „Гадзіна, калі мы не ведалі нічога пра сябе” — з нямымі сцэнамі, але разбудаваным сцэнічным рухам (венецыянскі карнавал, войны і руская масленіца, хлопцы катаюцца на дошкароліках, дзяўчаты вяртаюцца з матуральнага балю, маці возяць дзяцей у калясках, паяўляюцца персанажы нават з іншых спектакляў і карцін), перапоўненым музыкай Моцарта, Чайкоўскага, Равеля, дзе і Прэслея співаюць без слоў, дзе рэчаіснасць узбуджае ўяўленне, а нямая песня ўцягвае гледача ў гэту ігру.

Усходнія тэатры на гэты раз ігралі ў асноўным заходні рэпертуар. Таксама і Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы прывёз у Беласток п'есу сучаснага англійскага драматурга з пеляду „маладых гнеўных”. Купалаўскі тэатр адрозніваўся ў гэтай кампаніі можа занадта рэалістычным спектаклем.

В. Раеўскі, дырэктар тэатра імя Я. Купалы прывёз на гэты раз амаль цалкам маладую групу пачынаючых акцёраў. Ну, што ж, ігралі фактычна сябе, сваё пакаленне, свае праблемы і сваё жыццё. Толькі, Божа, няўжо і купалаўцы — выдучыя акцёры ў Рэспубліцы Беларусь — будуць ужо гаварыць на „трасянцы”? Чаму „обезьяна”, а не „малпа”, „разве”, а не „няўжо”, „отшлёпаю”, а не „адлупцую”, „домой”, а не „дадому”, „красивая”, а не „прыгожая”, „спроси”, а не „запытай”, „обратно”, а не „назад”, „мамаша с папашей”, а не „маці з бацькам”, „торопиться”, а не „спяшацца”, „да”, а не „так”, „нет” замест беларускага „не” і г.д. і т.п...

Сумна мне было, калі я чула гэту мову маладых. Ад купалаўцаў жа чалавек вымагае найбольш. Яны павінны, як ніхто, сачыць за чысцінёй беларускай мовы і несці высока яе штандар, захапляючы ўсіх яе харавством.

Я ўжо сядзела зусім разбітая, бо думкі запаланіла наша няшчасная мова, калі дачка звярнула мне ўвагу на седзячага недалёка гледача. „Глянь, мама, на гэтага чалавека з вусамі. Ён плача...” Я павярнула галаву і ўбачыла элегантнага сівога чалавека, у якога па шчаках плылі слёзы. Больш я ўжо нічога не каментавала.

Міжнародны фестываль тэатра менавіта ў Беластоку мае велізарнае значэнне. Тут сутыкаюцца дзве найважнейшыя культуры — усходняя і заходняя, тут пражывае шмат народаў і нацыянальнасцей. Тут міжнародны тэатр зразумеюць найлепш.

30 сакавіка, у апошні дзень IV Міжнароднага тыдня тэатра ў Беластоцкім лялечным тэатры адбыўся вечар акцёрскай песні, якога не пасаромеўся б не толькі Вроцлаў, але і Варшава.

Тыдзень удаўся!

**Ада Чачуга**

Andrzej Sadowski

# „Niwa” a przeobrażenia świadomości narodowej Białorusinów w Polsce

Z dużą satysfakcją przyjąłem zaproszenie do przedstawienia referatu na jubileuszowej konferencji podsumowującej 40-letni okres istnienia tygodnika „Niwa”.

W procesach przemian białoruskiej mniejszości narodowej w Polsce tygodnik „Niwa” odegrał rolę szczególną. W świetle moich informacji i doświadczeń związanych z tygodnikiem „Niwa” postawiłbym następującą hipotezę do uzasadnienia w dalszej części wypowiedzi. Prawdą jest, że w okresie powojennym w potocznej świadomości podstawowym kryterium wyznaczającym przynależność do Białorusinów jako grupy etniczno-kulturowej w Polsce było wyznanie prawosławne. Jednocześnie w złożonym procesie tworzenia się białoruskiej mniejszości narodowej jako właśnie narodowej rola i znaczenie „Niwy” było podstawowe.

W moim przekonaniu tygodnik „Niwa” odegrał podstawową rolę w złożonym procesie przekształcania się białoruskiej mniejszości od mniejszości lokalno-regionalnej, cechującej się początkowo przede wszystkim poczuciem odrębności wobec większości polskiej oraz więzią wewnętrzną opartą na bazie prawosławia w mniejszość narodową zdolną do samodzielnego artykułowania swoich potrzeb grupowych.

„Niwa” od początku jej powołania stała się podstawowym instrumentem kontaktu istniejących instytucji życia białoruskiego w Polsce z Białorusinami w terenie. W tym znaczeniu „Niwa” w świadomości społecznej Białorusinów w Polsce była podstawowym źródłem informacji o białoruskiej mniejszości, nosicielem białoruskich wartości narodowych.

Naturalnie w czterdziestoletnim okresie jej istnienia rola tygodnika w tym procesie ulegała istotnym zmianom. Zmiany powodowane były przemianami sytuacji politycznej w kraju, ale także przemianami osobowości społecznej samych Białorusinów.

W okresie powojennym wyróżniłbym przynajmniej trzy pokolenia Białorusinów zdecydowanie różniących się oczekiwaniami w zakresie wartości białoruskich w Polsce.

Pierwsze jest pokoleniem lat 1945-60. — pokoleniem stanu przed ujawnieniem przynależności do mniejszości białoruskiej, a jednocześnie pokoleniem przeżywającym radość z powodu uzyskania autonomii kulturalnej w obrębie państwa polskiego. W znacznym stopniu akceptowali oni procesy akulturacji, a więc procesy zewnętrznego przystosowania się do kultury polskiej przy wewnętrznym zachowaniu przywiązania do wartości białoruskich w formie białoruskich wartości ludowych.

Drugie pokolenie lat 60-70. można określić jako asymilacyjne. W tym okresie ukształtował się podział na tych, którzy byli zwolennikami asymilacji ku polskości oraz na tych, którzy pragnęli zachować i utrwalać białoruskie wartości narodowe.

Wreszcie można wyróżnić pokolenie lat 80-90. — jakościowo nowe pokolenie, zawiedzione procesami asymilacji, przejawami braku akceptacji odrębności kulturowej przez większość polską, a jednocześnie odkrywające na nowo bogate wartości kultury białoruskiej. Jest to pokolenie na ogół wykształcone, pozbawione kompleksów z przeszłości, początkowo raczej separatystycznie zaś później pluralistycznie ustawione wobec kultury polskiej.

Względem każdego pokolenia tygodnik „Niwa” spełniał jakościowo inną rolę. Jej przedstawienie daleko wykracza poza ramy dzisiejszego artykułu. Pokolenie pierwsze czytało „Niwę”, zachwycało się jej treścią, pokolenie drugie unikało kontaktu z „Niwą”, ponieważ przypominała ona im wstydliwe pochodzenie. Trzecie zaś pokolenie sukcesywnie odchodziło od „Niwy” poszukując nowych bardziej radykalnych form wyrażania białoruskich wartości narodowych. Zanim przedstawię wybrane zagadnienia empiryczne przynajmniej w skrótowej postaci określę rozumienie terminów użytych w tytule artykułu.

W socjologii w coraz mniejszym stopniu używa się kategorii *świadomość narodowa* celem oznaczenia określonego kanonu (fenomenu) kulturowego wspólnego wszystkim członkom grupy. Okazuje się, że w każdym narodzie substancja zbiorowej tożsamości nie jest równo i w całości podzielana przez wszystkich członków zbiorowości. O istnieniu kultury decydują przede wszystkim indywidualne działania poszczególnych członków. Dlatego też świadomość narodową definiuję jako zjawisko zbiorowego potwierdzenia łączności z grupą narodową w wyniku odpowiedniego wartościowania kryteriów obiektywnych, takich jak wspólne dziedzictwo kulturowe (m.in. język, religia), terytorium, organizacje życia zbiorowego i inne, ale także duma z przynależności narodowej, świadomość wspólnego interesu narodowego oraz innych przekonań na temat więzi narodowej.

Świadomość narodowa jest kategorią złożoną. Składa się z elementów świadomości lokalnej, regionalnej, religijnej, językowej, państwowej, ale także z elementów właściwych przede wszystkim świadomości narodowej, odpowiednio ułożonych tworząc subiektywnie pojmowaną całość. Proces kształtowania się świadomości narodowej można traktować także jako proces jej autonomizacji względem innych tradycyjnych komponentów świadomości przynależności grupowej.

Obecnie częściej używa się kategoria *tożsamość narodowa* celem oznaczenia zbieżności subiektywnych postaw wielu ludzi odnoszonych do własnej grupy kulturowej. Stosowane sposoby analizy tożsamości narodowej odnoszone w stosunku do narodów dominujących w danym państwie nie są adekwatne do sytuacji mniejszości narodowych. Tożsamość narodowa przedstawicieli mniejszości narodowych zwykle jest w jakiejś części powiązana z tożsamością większości narodowej. Dlatego też czasami w literaturze używa się kategorii *tożsamość cząstkowa*.

Powstaje więc pytanie, czy możliwa jest rozwinięta tożsamość narodowa w obrębie narodowej mniejszości?

Od początku swojego istnienia czyli od marca 1956 roku „Niwa” spełniała podstawowe funkcje prasowe. Dostarczała czytelnikom wielości informacji spełniając funkcję poznawczą, przekazane informacje na ogół poddawane były określonym interpretacjom. „Niwa” stanowiła podstawowy instrument transmisji wartości narodowych. Jednocześnie najróżniejszymi sposobami organizowała sprzężenia zwrotne między czytelnikami i redakcją sprzyjając kreowaniu i mobilizacji grupy kulturowej jako całości. Stwarzała także czytelnikom relaks, rozrywkę, szansę ucieczki od szarej codzienności.

Krótki przegląd powojennych przeobra-

# Аб'яднанне, сведчанне і аднаўленне

**Размова з Уладзімірам МІСІЮКОМ, новым генеральным сакратаром Сусветнай федэрацыі праваслаўнай моладзі „Сындэсмас".**

**„Ніва":** — *Ад імя рэдакцыі „Нівы" вітаю Цябе з выбарам на пасаду генеральнага сакратара „Сындэсмаса". Ці можаш спярша крыху расказаць пра свой жыццёвы шлях?*

**Уладзімір МІСІЮК:** — Нарадзіўся я ў 1964 г. у Арнэце. Мой бацька, а. Рыгор Місіюк, — праваслаўны святар і нашай сям'і давялося пераязджаць разам з ім туды, дзе яго пасылала Царква. Жылі мы ў Тарнагродзе ў Замойскім ваяводстве, і ў Драгічыне. З Драгічына я паступіў у Багаслоўскую акадэмію ў Варшаве. Два гады вучыўся таксама ў Праваслаўнай семінарыі Св. Уладзіміра ў Нью-Йорку.

— *Ці гэтыя пераезды мелі ўплыў на фармаванне тваёй асабовасці праваслаўнага дзеяча?*

— Часта даводзілася мяняць асяроддзе, знаёміцца з новымі людзьмі. Пазнаваў я ад сярэдзіны жыццё праваслаўных у прыходзе і інтэлектуальнае асяроддзе ў Варшаве. У Нью-Йорку адкрываў я для сябе Амерыку і яе праваслаўе. Там жа свае прыходы маюць і рускія, і сербы, і грэкі, ды беларусы. Быў я калісьці ў невялікім горадзе Джонстаўн. Там чатырнаццаць праваслаўных цэркваў, і кожная іншай юрысдыкцыі. Праз Амерыку я нанава адкрываў Польшчу, вучыўся па-новаму глядзець на нашыя тут справы.

— *З чаго пачалася Твая дзейнасць у праваслаўным маладзёжным руху?*

— Рос я ў Драгічыне. Мой бацька заўжды любіў працаваць з маладымі людзьмі. Плябанія поўная была дзяцей і моладзі, якія ў нядзелю прыязджалі сюды з навакольных вёсак. Многа было дыскусій. З перспектывы часу магу сказаць, што гэта было нечым выключным.

Хутка пачалі арганізавацца. На першым паломніцтве праваслаўнай моладзі на Святую Гару Грабарку ў 1980 г. група з Драгічына была самай вялікай. Паломнічалі тады таксама студэнты Багаслоўскай акадэміі. Іх апякун, дацэнт Ян Анхімюк (сённяшні ўладыка Іерамія) расказваў пра сусветную арганізацыю праваслаўнай моладзі, якой генеральны сакратарыят знаходзіўся ў Фінляндыі. Помню як сёння, сябра, які сядзеў побач, сказаў, што ніколі не паверыць у тое, што ёсць праваслаўныя ў Фінляндыі, пакуль сам іх не пабачыць. Праз год-два прыехаў да нас тадышні прэзідэнт „Сындэсмаса" Гэйкі Гутанен, і давялося паверыць.

Быў гэта час, калі арганізавалася Брацтва праваслаўнай моладзі. Я ўключыўся ў гэтую дзейнасць і быў выбраны ў праўленне Брацтва. Адказваў я за арганізацыю летнікаў. Першы такі летнік адбыўся ў 1984 г. у Супраслі. Брацтва было ўжо членам „Сындэсмаса". У 1989 г. я, як прадстаўнік Брацтва, выбраны быў на Генеральнай асамблеі „Сындэсмаса" ў Бостане ў праўленне гэтай арганізацыі. З гэтай пары я пастаянна прадстаўляў у ім Цэнтральную Еўропу.

— *Якія галоўныя напрамкі дзейнасці „Сындэсмаса"?*

— Прынцыпы дзейнасці „Сындэсмаса" — гэта аб'яднанне, сведчанне і аднаўленне. У Федэрацыю ўваходзіць цяпер 118 арганізацый з 40 краін. Вялікія магчымасці дзеяння адкрыліся ў апошнія гады ў краінах былога Савецкага Саюза. Мой выбар на генеральнага сакратара і перавод сядзібы сакратарыята ў Беласток вынікаюць са стратэгічных меркаванняў улад „Сындэсмаса". Праваслаўе ў Польшчы спалучае дасведчанні Усходу і Захаду. Тут ёсць і тыпова эміграцкія прыходы, і абшары, перш за ўсё на Беласточчыне, дзе праваслаўныя ў большасці.




Усё-такі нельга забываць і пра іншыя напрамкі дзеяння. Найважнейшым з іх хутка будзе, а можа і ўжо ёсць, Афрыка. На апошняй Генеральнай асамблеі „Сындэсмаса" якраз Афрыка мела найбольшае прадстаўніцтва.

— *З чаго бярэцца цяга афрыканцаў да праваслаўя?*

— Праваслаўе не абцяжарана каланіяльным мінулым. Афрыканцы, ахрышчаныя англіканцамі і католікамі, бачылі спрэчкі між місіянерамі. Сталі самі чытаць Біблію, вывучаць гісторыю Царквы. Такім чынам самастойна прыйшлі да праваслаўя. Сёння самыя моцныя цэнтры праваслаўя ў Афрыцы гэта Кенія і Уганда. Вялікую ролю ў праваслаўнай місіі ў Афрыцы адыграў менавіта „Сындэсмас".

— *Вернемся на наш еўрапейскі падворак. З Беластока рукой падаць у Беларусь. Як выглядае дзейнасць „Сындэсмаса" ў гэтай краіне?*

— У Беларусі да „Сындэсмаса" належаць: Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў у Мінску, Мінская духоўная семінарыя з сядзібай у Жыровічах і Праваслаўны багаслоўскі факультэт у Еўрапейскім Гуманітарным універсітэце ў Мінску. Мяркуючы па сённяшняй дзейнасці Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў, праваслаўны маладзёжны рух у Беларусі будзе развівацца паспяхова. Якраз гэтае брацтва было заснавальнікам Злучнасці праваслаўных брацтваў Беларусі. Адбылося гэта ў Сусветны дзень праваслаўнай моладзі 15 лютага 1993 года.

— *Ці можаш яшчэ расказаць пра Твае планы генеральнага сакратара на найбліжэйшую будучыню?*

— Прыярытэт у дзейнасці „Сындэсмаса" мае абучэнне дзеячаў. Прабуем прафесіяналізаваць іхнюю працу. Найбліжэйшы семінар-абучэнне рыхтуем у Румыніі. Трэба таксама падрыхтаваць праграму працы на 2—3 гады. Каб правесці ўсе прапанаваныя канферэнцыі, семінары і фестывалі, усё трэба рабіць ужо цяпер. Тым часам з прычыны пераводу сядзібы сакратарыята ў Беласток мы крыху запазніліся.

— *Дык жадаем Табе поспехаў у гэтай адказнай працы.*

— Дзякую. Са свайго боку ў гэты Вялікодны час жадаю рэдакцыі і чытачам „Нівы" ўсяго найлепшага.

— *Дзякуем за размову і пажаданні.*

Гутарыў **Алег ЛАТЫШОНАК**

*Фота Здзіслава ЛЯНКЕВІЧА*

---

żeń mniejszości białoruskiej na tle większości polskiej wskazuje, że można mówić przynajmniej o czterech zasadniczych procesach przemian, którym systematycznie towarzyszyła „Niwa".

Pierwszym jest proces kształtowania się tożsamości narodowej, od tożsamości lokalnej, religijnej, poprzez tożsamośc regionalną do tożsamości narodowej. Równie ważnymi są procesy instytucjonalizacji, od zupełnego braku instytucji reprezentujących interesy białoruskie, poprzez instytucje społeczne i kulturalne do politycznych i gospodarczych.

Procesy ruchliwości społecznej uważam za bardzo istotne dlatego, że miały one charakter sprawczy względem innych procesów. Masowe migracje ze wsi do miast, przejście od pozycji społeczno-zawodowych na wsi do zróżnicowanych pozycji w miastach, masowe zdobywanie wykształcenia powodowały procesy asymilacyjne, ale także świadome wybory białoruskiej tożsamości narodowej.

W krótkim okresie powojennym odnotować można ważne procesy uobywatelnienia (nabywania świadomości państwowej). Jeszcze w okresie międzywojennym mniejszość białoruska skłonna była popierać każdą władzę państwową. Poparcie udzielone komunistom w okresie międzywojennym jest trudne do jednoznacznej interpretacji. Moim zdaniem była to raczej niezgoda na rządy międzywojenne oraz wyraz tożsamości wynikającej z prawosławia. Potem było to poparcie społecznego awansu i nadziei wyjścia z sytuacji marginalności terytorialnej i etnicznej. Obecnie mamy do czynienia z wyraźnie wyartykułowaną podmiotowością polityczną białoruskiej mniejszości narodowej, a przynajmniej tej jej części, która występuje w zorganizowanej postaci w życiu publicznym regionu i kraju.

W jakim momencie przeobrażeń białoruskiej tożsamości narodowej powstała „Niwa"?

Po etapie wzajemnych repatriacji powojennych w granicach województwa białostockiego pozostało około 200 tysięcy osób wyznania prawosławnego obiegowo określanych jako Białorusini. Ustalenie wielkości Białorusinów tamtego okresu według stanu ich świadomości narodowej jest obecnie niemożliwe. Nazwa stosowana do zbiorowości prawosławnych woj. białostockiego najczęściej jest refleksem nazw stosowanych przez „obcych". Byli więc określani jako prawosławni, tutejsi, ruscy, Białorusini, a czasem złośliwie jako „kacapi". Wiele danych wskazuje, że jednym z podstawowych motywów zachowań tamtych czasów była obawa i nieufność wobec świata zewnętrznego. Obawa przed deportacją do Białorusi w wypadku przyznania się do białoruskości, obawa przed działalnością polskiego podziemia, obawa przed działalnością władzy.

W tym czasie dominowały postawy braku poczucia przynależności narodowej, ale także uzewnętrzniły się postawy narodowe m. in. w postaci zgłaszania postulatów wprowadzenia posłów białoruskich do Sejmu PRL na wzór okresu międzywojennego. „Ja nie razumieju i drenna czytaju hetuju niadauna wynajdzienuju mowu i wielmi dziwujusia, chto jaje wydumau i nam Bielarusam jaje nawiazau" („Nie, wy drenna dumajecie", „Niwa", 8.04.1956). Z drugiej strony postulowano zapoznać społeczeństwo województwa białostockiego z historią białoruskiego narodu, o której wielu Białorusinów nigdy nie wiedziało. Dominowała wiara w socjalizm, który miał gwarantować równość szans wszystkim narodom i ich kulturom. „Żyjemy w socjalizmie, jak można wyrzekać się rodzinnego języka, w którym wymawiamy pierwsze słowa, w którym matula śpiewała pierwsze piosenki" („Ab patryjatyzmie", „Niwa", 27.05.1956).

Od początku swojego istnienia „Niwa" spełniała zadania umocnienia współżycia mniejszości białoruskiej z większością polską, upowszechniała białoruską kulturę, język, wiedzę o BSRR. Niestety nie było własnych korespondentów na Białorusi, przeto przekazywano takie informacje o Białorusi, jakie formułowały agencje radzieckie. Upowszechniano więc wizerunek Białorusi taki, jaki chcielibyśmy widzieć lub taki, jaki chcieli widzieć inni, jako państwo postępu, harmonii społecznej i kulturowej.

„Niwa" od początku swego istnienia skierowana została do czytelnika wiejskiego i tutaj spełniła swoją niekwestionowaną rolę w procesie wprowadzenia Białorusinów do kultury narodowej, ale także do kultury ponadlokalnej w ogóle. W tym czasie język polski nie był powszechnie znany. Pojawienie się czasopisma w języku ojczystym wyzwoliło autentyczne zainteresowanie białoruską kulturą, zaś dla wielu stanowiło platformę do wprowadzenia ich w świat wartości ponadlokalnych. Dzięki językowi białoruskiemu wielu przedstawicieli mniejszości nie uległo procesom marginalizacji określonej analfabetyzmem, ale ewolucyjnie zostało wprowadzonych do kręgu kultury białoruskiej i polskiej.

Kto przeważnie czytał „Niwę"? Systematycznie „Niwę" czytali działacze białoruscy, uczniowie szkół podstawowych w języku białoruskim, szkół z białoruskim językiem jako przedmiotem, uczniowie liceów z białoruskim językiem nauczania oraz osoby, które uczyły się języka białoruskiego w szkole.

Czytano „Niwę" w środowiskach wiejskich. Ilustracją czytelnictwa „Niwy" mogą być odpowiedzi na konkurs-ankietę z 1962 roku na temat zainteresowania tematyką „Niwy". Ogółem przysłano 82 odpowiedzi (bardzo niski wskaźnik aktywności zważywszy, że nakład „Niwy" wynosił wówczas około 5 tysięcy egzemplarzy), w tym z powiatu hajnowskiego — 31, z bielskiego — 15, z białostockiego — 14, z sokólskiego — 5, siemiatyckiego — 3, augustowskiego — 1 oraz z Białegostoku — 2.

„Niwa" utożsamiana była z pozostawioną w miejscowościach rodzinnych kulturą ludową. W pierwszej fazie zasadniczo przyczyniła się do ukształtowania świadomości lokalnej i regionalnej. Czytelnicy dowiedzieli się, jaki zasięg ma ich kultura w obrębie Białostocczyzny, kto mówi zbliżonym językiem, jak się ma ziemia mojego dzieciństwa do ziemi mojego narodu. „Niwa" przybliżała, a także kreowała kulturę regionalną. Tutaj czytelnicy mogli dowiedzieć się wiele rzeczy o sobie, przeczytać, a nawet zobaczyć swoich bliskich, zapoznać się z problematyką ich miejscowości, śledzić białoruską aktywność kulturalną.

Czytano o rzeczach znanych, co nobilitowało ich samych, dowartościowywało ich kulturę jako normalną, porównywalną do innych. Do rangi symbolu urosła piosenka „Biełastoczczyna", która dla wielu stanowiła swoiste kulturowe wyznanie wiary, wyraz przywiązania do ojczyzny regionalnej, Białostocczyzny, która w świadomości mieszkańców została udomowiona.

W okresie tym wprawdzie trudno jeszcze mówić o świadomosci narodowej, ale pojawiła się ideologia regionalna, która po raz pierwszy realnie integrowała rozproszone społeczności pawosławne na Białostocczyźnie. Była nią ideologia Białostocczyzny jako swojego regionu, zawierająca określony system wartości, wzorów postępowania ocenianych jako pozytywne, powodująca, że zachowania społeczne stawały się bardziej regulowane według norm białoruskiej kultury.

Odwołując się do sfery emocjonalnej świadomości białoruskiej „Niwa" odegrała podstawowe znaczenie w kreowaniu lub podtrzymaniu świadomosci regionalnej jako podłoża do kształtowania się świadomoości narodowej. Mniej natomiast potrafiła służyć innym interesom mniejszości białoruskiej — awansowi społecznemu, problemom stabilizacji i pracy zawodowej w mieście, problemom wynikłym w procesie kontaktów z kulturą polską. Zamiast iść za awansującymi Białorusinami, tygodnik pozostał na wsi wśród „swoich".

Przedstawiłem jedynie początek zagadnienia, które niewątpliwie będzie przedmiotem autonomicznych studiów. Wprawdzie można dyskutować nad precyzyjnym pomiarem stopnia rozwoju białoruskiej świadomości narodowej obecnie, to dla mnie nie ulega wątpliwości, że w procesie jego kształtowania „Niwie" należy przypisać decydujące znaczenie.

**Andrzej SADOWSKI**

# Полька

(працяг са стар. 1)
ставілі Полька немцы і забралі ўсіх — і мужчын, і жанчын, і дзяцей — у Міхалова. Жандармерыя была з Міхалова, Гарадка і хіба Нараўкі. Нічога нельга было з сабой забраць — паехалі так, як стаялі. Мужчын адразу паставілі пад дрэвамі і пад вінтоўкамі, а пасля ўсіх ладавалі на сані, якімі яны прыехалі. Адзін мужчына быў стройны і немец кажа яму: Куры ў лес пайшлі, ідзі лапай. Быццам падказваў, каб уцякаць. Але ён не пакарыстаўся такою нагодай: пабаяўся, што гэта правакацыя, праз якую можа загінуць цэлая вёска. У дарозе жанчыны пачалі галасіць, то адзін з немцаў крыкнуў: Ціха быць, а не, то зараз у рове можам закончыць! Ну і стала ціха. Завезлі іх у Міхалова. Там раздзялілі мужчын ад жанчын і дзяцей.

Мяне спачатку, — кажа сп. Лапінскі, — узялі разам з мужчынамі але мама, і я, пачалі плакаць, то мяне адвялі да мамы. Мужчын забралі ў жандармерыю, там цяпер асяродак здароўя, а нас з жанчынамі трымалі тут, дзе цяпер ПКС. Там нас трымалі каля тыдня, потым наступіла далейшая сегрэгацыя — выпусцілі тых жанчын, што мелі малых дзяцей. А тых, што надаваліся да працы ў Нямеччыну, м. інш. нас, — аддзельна, і пасля ў Беласток. У Беластоку трымалі нас недалёка вакзала, у свайго роду гета, таксама каля дзесяці дзён. Пасля немцы падставілі транспарт і вывезлі. Калі мы яшчэ былі ў Міхалове, мужчын дапытвалі. Быў там адзін такі жандар, чалавек відаць добры, ён прынёс бялізну аднаго мужчыны жонцы — таго якраз, якому немец падказваў уцякаць. Было відаць, што пускалі на іх сабак — кашуля была падзерта і цэлая ў крыві. Аднойчы прыйшоў ён да нас і сказаў: Ну, цяпер Полька ўсё прапала.

І прыехаў самаход з гестапа з Беластока, мужчын павезлі пад Круглы Лясок. Было гэта нейкі месяц пасля таго, як вывезлі. Сагналі ўсіх з Круглага Ляска і Мацейкавай Гары на сход у Круглы Лясок, у школу. Па нейкім часе пабачылі, што едуць у вёску фурманкі з Міхалова. Потым загадалі ўсім выйсці і ў прысутнасці суседніх вёсак прывезеных расстралялі. Пасля прывезлі пастраляных у Полька, — тут ямы на бульбу былі, — і ў тыя ямы пакідалі, па двух-трох, і прысутным мужчынам загадалі пазасыпаць. І як мужчын пабілі, то ўжо тым жанчынам, што асталіся, сказалі вяртацца, хто куды хоча, абы толькі не сюды. Адна жанчына, напрыклад, паехала з дзяцьмі да сястры, што жыла ў Нарве. Гаварылі, што аднойчы, ідучы з Нарвы сюды, назбірала па дарозе грыбоў. Прыйшоўшы, распаліла ў печы, каб іх пасушыць. Немцы, пабачыўшы, што тут дым ідзе — што быццам бы тут партызаны маюць прыстанішча, вырашылі ўсё, што асталося, разабраць і прадаць. Праўда, тут, аднак, такая, што немцы выдалі гэты загад раней; жанчына гэтая паліла ўжо ў голай печы. І хто меў блізкую сям'ю, той праз пасрэдніцтва тае сям'і купляў свае ў немцаў — потым, як фронт прайшоў, забралі і паставілі на свае месцы. Былі пустакі, нарыхтаваныя на будову хлява, то тыя пустакі жандары забралі ў Міхалова і там нейкі склад пабудавалі. Пасля, як ужо фронт прайшоў, адкапалі пабітых і па вопратцы, крыжыках, распазналі, паклалі ў труны і перавезлі на могілкі ў Новай Волі, дзе кожнага пахавалі на сваё месца, пры сваёй сям'і.

А нас вывезлі ў Кёнігсберг, — гаворыць сп. Лапінскі,'— а пасля ў Гамбінін (цяпер Чарняхоўск), і туды прыязджалі „купцы" і нас выбіралі сабе. Мы папалі да надляснічага і там працавалі аж да надыходу фронту. Надляснічы, спадзяючыся прыходу фронту, выслаў сваю жонку аж у Драўбург (цяпер Драўска), да швагра, які быў заядлым эсэсаўцам, а сам, з намі, уцякаў фурай. У Драўбургу былі мы аж да вызвалення. Калі ўжо немцы прайгралі вайну, мае гаспадары вырашылі ўчыніць самагубства. Пайшлі на могілкі і той эсэсавец — быў ён з Быдгаскага — спачатку застрэліў сваю жонку з дачкою, пасля сястру са шваграм — г.зн. нашага надляснічага з жонкаю, яшчэ аднаго застрэліў і запрашаў да супольнай смерці яшчэ аднаго старэйшага чалавека. Але той не захацеў, сказаў, што з рускімі ваяваў у 1914 годзе і іх не баіцца, нямнога яму ўжо і так асталося. І тады наканец той эсэсавец пакончыў з сабою.

А мы пазней вярнуліся сюды, да бабулі, бо там жыць было небяспечна. Купілі ў Марынцы гаёўку і перавезлі ў Полька. Да таго ж лекар сказаў майму айчыму, што асталося яму не больш году жыцця. А пераехаўшы сюды, пражыў яшчэ амаль пяцьдзесят гадоў; праўда — кінуў курыць, гарэлкі таксама не браў. А і мама не ўяўляла сабе лепшага месца, чым тут. Я пяць гадоў таму пайшоў на пенсію, прыехаў сюды апекавацца бацькамі, я ў іх адзін. На Вялікдзень можа жонка з дачкою прыедуць...

Фота А. ВЯРБІЦКАГА

Сын Казберукоў канчае сельскагаспадарчы тэхнікум у Міхалове, сястра яго вучыцца ў Беластоку. На пытанне, ці не плануе вучыцца далей, пажымае плячыма. Тут жа такі дом...

Каля Круглага Ляска, у месцы, дзе пяцьдзесят тры гады таму разыгралася трагедыя жыхароў Полька, ляжыць камень. У Польку, насупраць мураванкі, стаіць помнік у памяць тых, што тут жылі.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Шматвяковая Белавежа

(працяг са стар. 1)
той час згарэў царскі палац і падпаленая „мадзьярамі" (атрад венгерцаў на нямецкай службе) найстарэйшая частка Заставы.

Наступіў перыяд народнай улады. Ужо ў верасні 1944 г. адкрылася пачатковая школа, а праз два гады — дзетсад, заснаваны Галенай Садчук. Пачалі працу два тартакі, пякарня, малачарня, два млыны, некалькі паслуговых пунктаў. Даваенная амбулаторыя была заменена ў гмінны асяродак здароўя. У ім да першай паловы 70-х гадоў змяшчалася таксама радзільная палата. Была адбудавана знішчаная немцамі чыгунка. Амаль да канца 50-х гадоў у Белавежы змяшчаўся філіял Дырэкцыі дзяржаўных лясоў у Беластоку. Узнавілі працу Белавежскі нацыянальны парк і аддзел Даследчага інстытута лесаводства (зараз Лабараторыя натуральных лясоў). У пачатку 50-х гадоў паявіліся наступныя навуковыя арганізацыі — сённяшнія Белавежская геабатанічная станцыя ВУ і Лабараторыя даследавання млекакормячых ПАН. У 80-х гадах далучыла да іх Лабараторыя папуляцыі раслін Інстытута батанікі ПАН у Кракаве.

У 1950 г. адчынілі кінатэатр „Зубр" — першае вясковае кіно на Беласточчыне. У той самы год пачаў дзейнічаць Дзяржаўны дзетдом. У палове 50-х гадоў узнавіла працу сярэдняя лясная школа, якая праз нейкі час атрымала новы, вялікі дыдактычны будынак і інтэрнат. У тыя ж 50-я гады заснаваны быў аддзел гайнаўскага прадпрыемства „Las" і трыкатажны завод гайнаўскага кааператыва інвалідаў „Postęp".

У 60-х гадах узнікла сетка гэесаўскіх крамаў. Пачалося развіваццa прыватнае жыллёвае будаўніцтва. Сталі мадэрнізавацца вуліцы. Тады здадзены быў у карыстанне турыстычны комплекс „Іва". Пачаў дзейнічаць Рэгіянальны беларускі этнаграфічны музей (ліквідаваны ў 1972 г.).

У наступным дзесяцігоддзі турысты атрымалі рэстаранна-гасцінічны комплекс „Зуброўка" і адкрыты быў новы чыгуначны вакзал. Заснаваны аддзел ПТТК пераняў абслугоўванне турыстычнага руху. Пачалося будаванне скансэна.

У 1979 г. Рада дзяржавы ПНР прысвоіла Белавежы „Крыж валечных".

80-тыя гады запісаліся ў памяці белавежцаў перш за ўсё адкрыццём аўтобуснай лініі ў Гайнаўку, Бельск і Беласток. Тады пачаў працу Дом грамадскай дапамогі „Rokitnik", быў аддадзены ў карыстанне новы будынак пачатковай школы і перабудаваны асяродак культуры. Паявіўся таксама невялікі гарадок пагранзаставы. Побач яго вырас новы будынак паліцыі.

У 1990 г. Рада гміны зацвердзіла герб мясцовасці (запраектаваў яго Васіль Скепка).

Пачатак III РП прынёс ліквідацыю чыгуначнага маршрута ў Гайнаўку і Бельск. Ліквідаваліся таксама некаторыя паслуговыя пункты і прамысловыя ўстановы. Паменшылася працазанятасць у прадпрыемствах і ўстановах. Узнікла беспрацоўе сярод жыхароў. У той самы час паўстала шмат прыватных крамаў, пераважна прадуктовых. Паявіліся новыя паслуговыя майстэрні (найбольш дрэваапрацоўчых). Узніклі дзве прыватныя навуковыя ўстановы (Багумілы Енджаеўскай і Зянона Левартоўскага) і некалькі турыстычных бюро. Два гады таму Тамара і Сяргей Тарасевічы заснавалі лясную галерэю. У пачатку г.г. пачаў дзейнічаць асяродак прыродазнаўчай адукацыі пры Белавежскім нацыянальным парку. Працягваецца пабудова гміннай ачышчальні сцёкаў.

Зараз Белавежа налічвае каля 2 700 жыхароў. Ва ўсёй Белавежскай гміне пражывае каля 3 400 чалавек. У турыстычных мэтах мясцовасць наведвае апошнім часам каля 80 000 асоб, у тым ліку звыш 5 000 замежнікаў.

**Пётр Байко**

# Бібліяграфічны КУТОЧАК

Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny. T. V. Leksyka 1. Pod red. Ireny Maryniakowej. PAN Instytut Slawistyki, Warszawa 1995, ss. 272, mapy.

Białoruski ruch studencki w Polsce 1981-1992. Białystok 1995. Rec. MILEWSKI Jan Jerzy, *Gazeta Tygodniowa* 17-24.03.1996 r., nr 5, s. 10.

CEKMAN Valerij N.: Białorusini chcą by było jak przedtem. Rozm. przepr. Siarhej Dubavec. *Kultura* 1995, s. 119-134.

DESZKO Olga: Sprawozdanie z konferencji „Białoruś i Polska w Europie". *Kultura i Społeczeństwo* 1995, nr 3, s. 177-180.

GAWRYLUK Andrzej: Białoruski jubileusz (5-lecie Białoruskiego Zjednoczenia Demokratycznego w Olsztynie). *Dziennik Pojezierza*, 15.03.1996 r.

Informator o archiwaliach z kresów północno-wschodnich Drugiej Rzeczypospolitej w zasobie archiwów białoruskich i LCVA w Wilnie. Oprac. Jan Jerzy Milewski. Polskie Towarzystwo Historyczne, Oddział w Białymstoku, Białystok 1996, ss. 51.

IWANOWSKI Stanisław: Samoobrona w Lidzie i Grodnie w 1918-1919. *Zeszyty Historyczne* 1995, z. 113, s. 110-124.

JANOVIČ Sakrat: Zanotowane dla pamięci. Tł. Jerzy Litwiniuk. *Regiony* 1995, nr 3, s. 107-113.

KIJUĆ Władysław: Armia Krajowa na Litwie i Białorusi. *Zeszyty Historyczne* 1995, z. 113, s. 160-165.

ŁATYSZONEK Oleg: Wrzesień niezgody. Zjednoczenie ziem białoruskich dokonano siłą zewnętrzną, wola Białorusinów w ogóle się nie liczyła. Z historykiem, dziennikarzem „Nivy" ... rozm. Kazimierz Rosiński. *Kurier Poranny*, 15.09.1995 r.

MIRONOWICZ Eugeniusz: W objęciach Moskwy. Komentarz redaktora naczelnego „Nivy". Wypow. zanotował (kr). *Kurier Poranny*, 26.03.1996 r., nr 73 (1677), s. 9.

/nik/: Na „Niwie" tożsamości. W sobotę białoruski tygodnik „Niwa" świętował 40. rocznicę założenia. *Kurier Podlaski*, 4.03.1996 r., nr 45 (3265), s. 1, 2, il.

PĘKSA Czesław, SZYMANOWSKI Stanisław: Nagroda naukowa imienia Franciszka Skoryny (dla ks. Romana Dzwonkowskiego). *Studia Polonijne* 1990, t. 13, s. 301-302.

RADZIK Ryszard: Idea narodu białoruskiego w drukach narodników grupy petersburskiego pisma „Homon" (ref.). *Slavia Orientalis* 1995, nr 3, s. 399-407. Rez.

SADOWSKI Anrzej: Pogranicze polsko-białoruskie. Tożsamość mieszkańców. Wyd. Uniwersyteckie „Trans Humana", Białystok 1995, ss. 269, tab., mapy.

SIKORSKI Radek: Białoruś czasu wyborów. *Tygodnik Solidarność* 1996, nr 2, s. 8-9.

SZUSZKIEWICZ Stanisław: Jak rozwiązałem Kraj Rad. Rozm. przepr. Antoni Zambrowski. *Tygodnik Solidarność* 1996, nr 2, s. 8-9.

Urzędnicy dawnej Rzeczypospolitej XII—XVIII wieku. Spisy. Pod red. Antoniego Gąsiorowskiego. T. VIII: Podlasie. Urzędnicy podlascy XIV-XVIII wieku. Spisy. Oprac. Ewa Dubos-Urwanowicz, Włodzimierz Jarmolik, M. Kulecki, Jerzy Urwanowicz. Biblioteka Kórnicka, Kórnik 1994 ss. 200.

— T.XI: Urzędnicy centralni i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV-XVIII w. Spisy. Oprac. Henryk Lulewicz i Andrzej Rachuba. Biblioteka Kórnicka, Kórnik 1994, ss. 255. **Р. С.**

## Позірк у мінулае

**28 красавіка**

1939 г. — Гітлер запатрабаваў ад Польшчы калідор ва Усходнюю Прусію.

1945 г. — расстраляны Беніта Мусаліні, італьянскі дыктатар.

1969 г. — французскі прэзідэнт Шарль дэ Голь падаўся ў адстаўку ў сувязі з адмоўным вынікам рэферэндуму адносна ягонай палітыкі.

**29 красавіка**

1899 г. — нар. „Дзюк" Элінгтан, амерыканскі джазмен.

1913 г. — Гідэон Сандбек атрымаў патэнт на маланкавую засцёжку.

1921 г. — нар. гісторык Мікола Ермаловіч.

1945 г. — амерыканскія войскі вызвалілі канцлагер Дахаў блізу Мюнхена. Вызвалены таксама Мілан і Венецыя.

1975 г. — апошнія амерыканскія атрады пакінулі В'етнам. Тысячы ўцекачоў пакідалі краіну на лодках.

1991 г. — на канферэнцыі ў Мадрыдзе прынята рашэнне аб забароне эксплуатацыі карысных выкапняў на Антарктыдзе на працяг 50 гадоў.

**30 красавіка**

311 г. — рымскі кесар Галерый выдаў у Сердыцы (Сафіі) акт талерантнасці хрысціянам, якія падвяргаліся ганенням ад яго ад 303 г.

1276 г. — вялікі пажар у Вене знішчыў дзве трэці горада.

1310 г. — нар. Казімір Вялікі, польскі кароль.

1946 г. — нар. Карл XVI Густаў, шведскі кароль.

1962 г. — амерыканскі лётчык Джо Уокер падняўся на вышыню 77,7 км.

**1 мая**

1851 г. — у Лондане каралева Вікторыя адкрыла першую Сусветную выстаўку.

1890 г. — па рашэнню II Інтэрнацыянала праведзена першую „маніфестацыю міжнароднага рабочага руху".

1928 г. — нямецкая авіякампанія *Lufthansa* адкрыла лінію з Берліна ў Маскву. Палёт з трыма прызямленнямі (у Кёнігсбергу, Рызе і Смаленску) доўжыўся 15 гадзін.

1931 г. — нар. паэт Алег Лойка.

1931 г. — у Нью-Йорку афіцыйна адкрыта *Empire State Building*, найвышэйшы тады будынак у свеце (381 м).

1933 г. — нар. Мішэль Камдэсю, французскі фінансіст.

1973 г. — закончана будову найвышэйшага небаскроба *Sears Tower* у Чыкага (443 м).

1978 г. — памёр Арам Хачатуран, армянскі кампазітар.

**2 мая**

1519 г. — памёр Леанарда да Вінчы, італьянскі геній.

1919 г. — „Белыя" занялі Мюнхен. У ходзе баёў загінула або было расстраляных каля 400 „чырвоных". Канец „савецкай рэспублікі" ў Баварыі.

1945 г. — Савецкая Армія заняла Берлін.

**3 мая**

1791 г. — польскі сейм прыняў першую ў Еўропе канстытуцыю.

1950 г. — кітайскі ўрад увёў штраф за палігамію і гандаль дзяўчатамі.

1979 г. — брытанская палітык Маргарэт Тэтчэр, як першая жанчына ў Еўропе, займае пост прэм'ер-міністра.

**4 мая**

1980 г. — памёр Ёсіп Броз-Ціта, югаслаўскі палітык.

**(Ш)**

## ПАРНАСІК

### Веснавыя роздумы

Вясна, работы пачатак,
На ўсё ёсць парадак.
Хаця вясна спазнілася,
Мо яна з зімою білася.
Убачым, як красавік сябе павядзе —
Ці вясну з цяплом прывядзе.
Вясна свой час павінна адрабіць
Так, каб нам жыць.
Гэта Божае выпрабаванне
І наша жыццё — Яго дараванне.
Замала маем любві і міласці
І да акружаючага не маем літасці.
Калі ў поле пойдзем
І дарожку знойдзем? —
Можам толькі гадаць
І нічога не знаць.
А работа чакае
І нас паганяе.
Мы бяссільныя супраць волі прыроды
І не памогуць нам найлепшыя „ходы".
Мы можам толькі байкі гаварыць,
А зло і распусту тварыць.
Бог чакае нашай малітвы,
Каб мы з нячысцім вялі бітву.
І вясна прыйдзе нечакана —
Тварцом даравана.
І работа пойдзе, будзем сеяць.
Перад гэтым варта правеяць
Авёс, ячмень і пшаніцу...
Мо пачуем гук навальніцы.
Гэта прызнак, што вясна
Завітала і прынясла
Цяпло, дождж і спевы.
І забыліся завеі.

**Мікалай Панфілюк**

### Птушыная просьба

Як прыемна вясною,
Існі дарожкай лясною.
Паабапал дрэвы стаяць
І лісточкі з табой гутараць.

А на гэтых дрэвах
Птушачкі сядаюць
І сваім шчэбетам
Аб сабе заяўляюць.

У птушыным спеве
Голас просьбы звініць.
Моляць яны людзей,
Дазволіць ім жыць.

І вясна ўжо прыходзіць,
Прыбіраюцца двары.
А ў лясок усё вывозяць
Ад зары да зары.

Ой як цяжка пражыць
У гэтым брудным ляску.
Птушкам голас дрыжыць,
Бы па атруты глытку.

Ой народ, ты народ,
Як нам вас пераканаць!
Сядзь жа ў сметнік ты сам
Свае песні спяваць.

Гаварыць мы не можам,
Толькі просім праз спеў.
Летам вам дапаможам
Пазбіраць насякомых з дрэў.

А цяпер мы гатовы
Праслявіць людскі род,
Толькі не вазіце смецце
Ў наш лясны агарод.

**Ніна Мінько**

## ВЕР — НЕ ВЕР

Прысніліся мне два сны ў адну ноч. Першы. У вялікім пакоі нейкія людзі. Стаяць яны пры сцяне. З імі і мой былы зяць. Адчыняюцца дзверы і ўваходзяць два паліцэйскія. І адразу да мяне, не ведаю, у чым справа — арыштаваць мяне хочуць, ці што?

Другі сон. Я на кухні. Трымаю ў руках кавалак свінога мяса. Яно нясвежае, я яго памыла і не ведаю, што рабіць. Аглядаю, нюхаю. Дрэннага паху няма. І тут ужо на кухні братавая. Я ёй паказваю гэта мяса. А яна паказвае мне на іншае мяса і вялікі кусок саланіны наверсе, што ляжаць у ракавіне (злеве). Усяго разам поўны злеў (злеў у тым месцы, дзе ў мяне халадзільнік). Гэта мяса яна прынесла і кажа, што мае мяса больш свежае ад таго, што ў злеве.

Астроне, пэўна, нейкія непрыемнасці, ды хвароба чакаюць мяне?

**Ірына**

Ірына! Твае сны нядобрыя. Першы сон гаворыць аб страце самастойнасці (тыя людзі, што стаялі пры сцяне). Паколькі быў з імі і твой былы зяць, дык можна меркаваць, што менавіта ён будзе мецъ да цябе нейкія прэтэнзіі, або выкажа нейкім чынам свае вульгарныя адносіны. Паліцэйскія быццам пацвярджаюць факт насілля.

Што датычыцца другога сну, дык ён няўхільна прадвяшчае, што ў цябе будуць непрыемнасці. Цалкам магчыма, што будуць яны звязаны з хваробай. Можна ўжо расхварэцца і ад першага сну.

**Астрон**

## 50 гадоў вясковага спорту

Сёлета ЛЗСы святкуюць 50-годдзе свайго існавання на Беласточчыне. Першыя спартыўныя гурткі былі заснаваны ў Боцьках, Угове і Кузніцы-Беластоцкай. Спачатку ў вёсках дзейнічалі толькі футбольныя каманды. Пазней вясковыя юнакі і дзяўчаты пачалі займацца настольным тэнісам, валейболам, лёгкай атлетыкай, а затым спаборнічалі ў галіне падымання гіры і штангі, у велагонках, а нават у боксе.

Цяжкі час для народных спартыўных калектываў (ЛЗС) настаў на пачатку дзевяностых гадоў, калі дзяржава паменшыла датацыі на фізкультуру. Аднак у шматлікіх гмінах паміма цяжкасцей спорт далей развіваецца, між іншым у Нараўцы, Крынках, Міхалове.

Найбольшыя спартыўныя дасягненні маюць лёгкаатлеты „Падляшша" Беласток, якія ў мінулым годзе ў групе юнцоў занялі чацвёртае месца ў краіне, а ў групе старэйшай моладзі перайшлі ў першую лігу.

**(яц)**

## Крыжаванка



**Вертыкальна:** 1. вучоба, 2. кабан, 4. невялікая лірычная арыя, 5. глухі лес, аблог, 6. пераллівістыя, частыя гукі (мн. л.), 7. горад у Маравіі на захад ад Астравы, 12. узор з пераплеценых ліній, кветак, раслін, 14. вобласць улады экзарха, 16. алейная расліна, 17. рака ў Бельгіі, 18. д'ябал, 19. рака ў Месапатаміі, 21. выступае на сцэне, 24. рака ў Перу, 25. рака ў Сібіры, 26. вынік збівання смятаны, 27. едкі газ, злучэнне азоту з вадародам, 28. горад у Македоніі.

**Гарызантальна:** 3. рака ў Паўночнай Амерыцы, 8. расціранне цела, 9. наш кантынент, 10. пярэдняя частка галавы, 11. астатак ампутаванай канечнасці, 13. горад у Андалузіі, 15. горад на Гродзеншчыне, 16. невялікая рама, 20. жаніх, 22. вучонае званне, 23. адасобленая сядзіба, 27. абадок у шапцы, 29. амплітуда, 30. аргенцінскі танец, 31. травяністая расліна, 32. сузор'е паўночнага неба, 33. заляцанне, 34. інструментальная музыка амерыканскіх неграў.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 9 н-ра:** кіпарыс, аксаміт, інфаркт, саранча, сарафан, Дарафей, адзінка, валакно, планета, катарга, багатыр, пярынка.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Галене Тапалянскай** з Трасцянкі і **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў Вялікіх.

**Ніва**

**„Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 421-033.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1996 r. upływa 5 czerwca 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

Рыгор Елшэвіч

### Рэкордная працавітасць

Архітэктар Сідар Калабада
На рабоце б'е заўжды рэкорды:
Ён за год складае праект склада,
А за паўгода — два красворды.

### Не за грошы

— Чаму выходзіш за мяне,
Прызнавайся, Раю.
Не таму, што я на кніжцы
Дзесяць тысяч маю?..
— Тыя грошы, нібы дым.
Праўду кажуць людзі —
За паўгода ад вяселля
Іх ужо не будзе...

### Тэрміновая рэвізія

— Лятаў я сёння, нібы метэор, —
Казаў сяброўцы рэвізор. —
Чатыры базы ахапіў і склад,
А на закуску — мясакамбінат...
— З якой, скажы, гэта прычыны?
— У цешчы заўтра імяніны!

*Пераклаў з украінскай мовы
Сяргей Чыгрын*

Уладзімір Дугар

### Маем!...

Ужо даўно не спажываем
Ані масла, ні сыркоў,
Ды затое ўдосталь маем
Дэпутатскіх языкоў.

*Пераклаў Валерый Бабей*

***— Спадарыні і спадары, рабочыя і працоўная інтэлігенцыя, пенсіянеры–сяляне! Калі 1–га мая будзеце садзіць бульбу, памятайце, дзякуючы каму гэты дзень стаў свабодным ад працы. Віншую вас са святам!***

### „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Пан сенатар, ці гэта праўда, што на сустрэчы з выбаршчыкамі кідалі ў вас яйкамі? — пытаецца журналіст.
— Так, гэта праўда.
— Чуў, што і апладысменты былі...
— Калі пацэлілі.

* * *

— Як доўга працуеш у гэтай фабрыцы?
— Ад таго часу, калі дырэктар пастрашыў мяне беспрацоўем.

* * *

Грыша пасля добрага абеду пытае афіцыянта:
— Чаму гэту смакавітую страву назвалі Абдулавай печаняю?
— Бо той сабака так называўся.

* * *

— Афіцыянт! Ці гэта не занадта, што ў маім супе плаваюць тараканы, да таго ж яшчэ недаваранья?!

* * *

— Гэта тая моцная кава, якую я заказаў у вас?!
— Вядома! Ледзь выпілі глыток, а як ужо ўзбуджаны...

* * *

— Прапаў мой муж, — заяўляе на паліцыі знерваваная жонка.
— У што быў апрануты? — пытае паліцыянт.
— Як усе: у чорныя нагавіцы, светлую рубашку і фартушок у кветачкі.

* * *

— Каб ты навучылася маўчаць як рыба, я быў бы самым шчаслівым чалавекам у свеце, — уздыхае муж.
— Ты таксама мог бы многа чаму павучыцца ў рыб, — адказвае жонка.
— Напрыклад чаму?
— Піць толькі ваду.

* * *

Медсястра пытае лекара:
— Пан доктар, калі я даю хворым лякарствы, адчуваю, што ў іх выразна паскараецца пульс. Што мне тады рабіць?
— Зашпіліце два гузікі пры сваім дэкальтэ.

Іван Сачывец

## Падарожжа ў Бурундзі

— Барыс Мікалаевіч! Прабач, што турбую па тэлефоне. Інакш цябе не зловіш. Гэта Стасік гавора. Убачыцца нам трэба.
— Няма часу, дружа. Заняты па самую завязку. У мяне якраз прымерка.
— А што ты шыеш?
— Касцюм.
— Дык у цябе вунь іх колькі...
— Тут лёгкі патрэбен. Летні.
— На курорт?
— У падарожжа.
— Далёка?
— У нейкую Бурундзі. Краіна такая. Дзяржава...
— Ці не ў Афрыцы часам?
— Без паняцця. Пра гэта кіраўнік нашай дэлегацыі павінен ведаць.
— І чаго ж вы туды едзеце? Нешта тэрміновае?
— Па вопыт.
— Дык вы паехалі б куды-небудзь бліжэй. У Францыю, напрыклад.
— У Францыі ўжо былі.
— Ну, у Германію.
— Былі.
— Тады ў Амерыку махнулі б...
— Ужо „махалі". І не раз. Ад кожнай партыі лідэры лёталі.
— Дык вам мала іхняга вопыту?
— Мала. Гэта краіны цывілізаваныя. З традыцыямі. У іх дзяржаўнасць, канстытуцыйнасць, дэмакратызм, парламентарызм...
— Дык вам хіба гэтага мала?
— Выходзіць, што мала. Трэба пераймаць вопыт у тых, каланіяльных. Што былі калоніямі. А пасля сталі свабоднымі. Як вось мы...
— Што вы хочаце ў іх запазычыць?
— Перш за ўсё стварэнне дзяржавы ва ўмовах самастойнасці. Ну і ўсялякія там эканамічныя рэформы.
— А касцюм табе навошта новы?
— Адпаведна кліматычных умоў. І дыпламатычных. Не можам жа мы ў тым ці той Бурундзі выглядаць дзікунамі. Так што прабач, дружа, не да цябе мне зараз. Прымерка. Сам разумееш: дзяржава на першым плане. Ды і на карце трэба было б знайсці гэта Бурундзі. А дзе яно ў чорта на рагах?

*Пераклаў на беларускую мову
Валерый Бабей*

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! У нашай школе многа прыгожых і статных хлопцаў. Бегаюць за імі дзяўчаты. І мне таксама некаторыя падабаюцца, але я стараюся сама не накідацца. Лепш пачакаць, пакуль хлопец сам пачне залёты.

Хлопцы часамі да мяне прыходзяць. Прыемна з імі паразмаўляць у хатніх умовах, паглядзець добры фільм па тэлевізару ці паслухаць нейкую касету. Але ніколі не было нічога такога, што здарылася нядаўна.

Я вучуся ў сёмым класе. У нашым класе ёсць хлопец Павел. Ён да мяне ніколі не заходзіў. І раптам прыходзіць з іншым нашым сябрам. Я даволі-такі здзівілася, але ветліва іх прыняла. Той другі хлопец бываў у мяне раней, але Павел не прыходзіў ніколі.

Я адчувала сябе ніякавата і была крыху насцярожана. Чаго гэта ён выбраўся да мяне?! Ну, можа, проста калега зацягнуў... У пэўным моманце, калі мы сядзелі на канапе, Павел неспадзявана абняў мяне і прытуліў да сябе. Другі хлопец сядзеў — як бы ніколі нічога. Павел прырваўся да маіх вуснаў. Яшчэ ніхто мяне не цалаваў у губы, а Павел рабіў гэта з несамавітым упорам, даслоўна грыз мяне. На жаль, я не адчувала ніякай прыемнасці — адно боль. Я лічыла заўсёды, што закаханыя хлопцы паводзяць сябе інакш. „Дзіўнае ўсё гэта, — падумалася мне, калі хлопцы пайшлі нарэшце дахаты. — І калегі не пасаромеюся!"

На другі дзень, калі я прыйшла ў школу, хлопцы толькі прыглядаліся да маіх пасінячаных губоў. Мне было сорамна, бо яны рабілі мне недвухсэнсавыя ўвагі, ды так, быццам бы ўсё ведалі. Няўжо нагаварыў ім той сябра, што прывёў да мяне Паўла?! Я не ведала, што і думаць.

Павел не звяртаў на мяне ніякай увагі, і мне было вельмі прыкра. Што ён сабе думае? Прыгвараўся закаханым да шаленства, а паводзіць сябе, быццам бы мы былі ледзь знаёмыя.

Бачачы, што я перажываю, падыходзіць да мяне адна сяброўка з класа ды кажа: „Слухай, не перажывай ты дарма! Тут няма чым нават галаву дурыць. Проста ты заўсёды была такая недаступная і хлопцы заклаліся з Паўлам, што нікому не ўдасца цябе пацалаваць. Павел сказаў, што няма праблемы, калі толькі ён захоча..."

Сяброўка пра ўсё гэта даведалася ад свайго хлопца толькі нядаўна і вырашыла мне пра гэта паведаміць. Ну, вядома, каб я на нішто занадта не спадзявалася, бо Павел ходзіць з дзяўчынай з іншай школы і да яе присохла яго сэрца. Але паколькі ён лічыць, што ніводная дзяўчына не ў стане адмовіць яму (такі ён цудоўны!), дык заклаўся з хлопцамі, што і я дазволю яму пацалаваць сябе, хаця ні з кім з нашага класа я не цалавалася. Доказам для хлопцаў на другі дзень мелі быць мае пасінячаныя губы, а той хлопец, з якім Павел прыйшоў, меў быць сведкам, што факт гэты меў месца.

Ад сораму я гатова была праваліцца пад зямлю. Загуляў са мною! Пакараў за непакорнасць?! А ці ж усе дзяўчаты мусяць бегаць за ім? І не гадка было яму лезці да іншай дзяўчыны, калі мае сваю, з якой ходзіць? Нахабнік!

І пачало мне нешта свідраваць у мазгу. Думаю: ах, так? Дык і я табе аддзякую. Даведалася ад сяброўак, што гэта за дзяўчына, як яе прозвішча. Знайшла яе тэлефон, прадставілася як сяброўка Паўла з класа, ды запрасіла яе да сябе. Усё расказала ёй, як было. Каб ведала, дзеля прафілактыкі. Каб не ўводзіў і яе ў зман, ашукоўваючы налева і направа. Дзяўчына выйшла ад мяне ў слязах. А цяпер вось мяне стала мучыць сумленне. Мо не варта было яе кранаць?

**Ася**

Ася! Прызнайся, даражэнькая, што не столькі ты хацела паведаміць той дзяўчыне пра факт, які меў месца ў тваёй хаце, каб папярэдзіць яе, што яе хлопец — бандыт, колькі хацела дапячы яму і ёй, псуючы іх сяброўства. Дзяўчаты наогул бываюць каварныя. Апраўдвае цябе толькі факт, што асмяшыў ён цябе ў вачах цэлага класа.

**Сэрцайка**